беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 12 (50)
3 чэрвеня 1996 г.
панядзелак

выходзіць у панядзелкі

летні расклад чыгункі
КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА
ТЭЛЕПРАГРАМА
БІРЖА ПРАЦЫ

**Беларусь — Польшча — Украіна**

## Мікрамадэль Эўропы

– Упершыню нашы краіны размаўляюць між сабою без пасярэднікаў і без удзелу Расеі, – падкрэсьліў віцэ-міністар замежных справаў Беларусі Іван Антановіч падчас польска-беларуска-ўкраінскай канфэрэнцыі.

Усе мінулыя выхадныя палітыкі, афіцыйныя асобы і экспэрты з трох дзяржаваў гутарылі ў Варшаве пра пашырэньне NATO, пра ролю Расеі ў рэгіёне і супрацоўніцтва Польшчы, Беларусі і Ўкраіны ў галіне бясьпекі.

На канфэрэнцыі, якую арганізавала Эўраатлянтычнае Згуртаваньне (SEA), гутарка ішла пра адносіны Польшчы з Украінай і Польшчы зь Беларусяй, а вось беларуска-ўкраінскага дыялёгу не атрымалася. Не ставала таксама прадстаўнікоў вышэйшага польскага кіраўніцтва. Прэзыдэнт Атлянтычнага Клюбу Яраслаў Гузы мяркуе, што гэта сьвядомая пераарыентацыя польскай палітыкі з Кіева і Менску на Маскву.

У справе NATO і ролі Расеі ў рэгіёне неспадзяванак не было. Польшча бачыць толькі пазытыўныя наступствы пашырэньня NATO і хоча партнэрскіх дачыненьняў з Расеяй. Тая, праўда, як было заўважана, блытае сфэры інтарэсаў з сфэрамі ўплываў. Украіна застаецца па-за вайсковымі блёкамі, але не пярэчыць пашырэньню NATO, ня хоча толькі ядравае зброі на тэрыторыі

*Працяг на старонцы 4*

## Дзяржава non grata

Вышэйшае кіраўніцтва Беларусі не ўспрымаецца як самастойны суб'ект сусьветнае палітыкі.

Як вядома, сустрэча шэфаў краінаў «вялікае сямёркі», Расеі і Ўкраіны 20 красавіка, што была прысьвечана праблеме ядравай бясьпекі ды ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, адбылася без удзелу прэзыдэнта РБ. Адміністрацыя А.Лукашэнкі рабіла немалыя высілкі, каб забясьпечыць удзел свайго боса ў крамлёўскім спатканьні, але натрапіла на згуртаваныя шэрагі заходніх лідараў, якія не схацелі сустрэчы зь беларускім калегам.

Намесьнік міністра замежных справаў РБ А.Саньнікаў заявіў тады, што у зьнешнепалітычным ведамстве выклікае абурэньне факт незапрашэньня прадстаўніка Беларусі. Ён паведаміў, што МЗС краіны некалькі месяцаў займалася падрыхтоўкаю да гэтай сустрэчы і

*Працяг на старонцы 4*


*Менск. Праспэкт Скарыны. 30 траўня*

## Зламаны парасон

*Апошнім веснавым днём пасьля працы ішоў па праспэкце філёзаф і паэт Ігар Бабкоў. Міліцыя з амонам разьятрана мардавала ўдзельнікаў чарговае акцыі за вызваленьне палітычных вязьняў. Пад гарачую руку міліцыянты зьбілі мінака-філёзафа, вывіхнулі яму руку, зламалі ягоны новы прыгожы парасон. Вакол яшчэ блізу дзьвюх гадзінаў лупцавалі людзей – маніфэстантаў і мінакоў. Білі й арыштоўвалі моладзь. Арыштавалі звыш сотні...*

*Людзей у Менску органы б'юць, хапаюць і садзяць за краты ўжо рэгулярна. Усю вясну, амаль штотыдзень. Неад'емная частка побыту эпохі Лукашэнкі. Мясцовыя традыцыі. Штогадовае ўскладаньне кветак да помніка Багдановічу, прымеркаванае да ўгодкаў ягонае заўчаснае сьмерці, сёлета скончылася чытаньнем вершаў і... арыштамі ўдзельнікаў імпрэзы.*

*Беларусь пазнаецца ў любой газэце са здымкаў, так падобных да ілюстрацыяў старых кніжках пра палітычную геаграфію, дзе беспамылкова можна было пазнаць краіну з клішэ «антыдэмакратыя». Гэтыя ілюстрацыі былі няякасныя, шматкроць рэтушаваныя. Бярэш, да прыкладу, даведнік, залазіш у «П», а там – «Палестына», «ПАР», «Паўднёвая Карэя»... Суцэльная куламеса паліцэйскіх касак і людзей, якія прагнуць волі. Мінуў час, і сёньня палестынцы адраджаюць сваё гаспадарства, ліквідаваны апартэід, а колішняя дзяржаўная кліка Паўднёвае Карэі даўно за кратамі. Моладзь, якую рэпрэсавалі ў свой час у гэтых краях, сёньня вырасла і кіруе эканомікай, палітыкай, стварае культуру. Колішнія паўднёвакарэйскія студэнты, зьбіцьцё якіх штодня паказвала праграма «Час», сёньня адправілі пад суд усіх сваіх крыўдзіцеляў: прэзыдэнтаў, гэнэралаў, сьледчых...*

Працяг на старонцы 2

## Пэнсійная бомба запаволенага дзеяньня

Урадам Цэнтральнай Эўропы трэба будзе вырашыць складаную задачу – правесьці рэформу пэнсійнай сыстэмы, якая пагражае стаць бомбай запаволенага дзеяньня.

Пэнсійная сыстэма тут захавалася практычна ў ранейшым выглядзе і за сем гадоў пасьля падзеньня камунізму ў працэсе рэформаў не зьмянілася. Між тым, сярэднестатыстычны грамадзянін краінаў Цэнтральнай Эўропы старэе, як кажуць, на вачах.

Рэформу пэнсійнай сыстэмы распачынаюць толькі Польшча й Вугоршчына. Палякі падлічылі, што праз 35 гадоў 23,3 працэнта жыхароў краіны будуць мець больш за 60 гадоў. У 1990-м пэнсіянэры складалі 15 працэнтаў насельніцтва Польшчы. А сёньня пэнсіі і сацыяльныя дапамогі атрымвае блізу чвэрці насельніцтва.

Вугорцы таксама хутка старэюць. У 1990 годзе 60 і болей гадоў мелі 19,3 працэнта. Праз 35 гадоў такіх будзе ўжо 26,8 працэнта.

У Чэхіі праз 35 гадоў пэнсіянэры складуць 28,7 працэнта насельніцтва краіны.

Пэнсійная рэформа стане цяжкім выпрабаваньнем для палітычных сілаў рэгіёну – зьмены ў сацыяльнай сфэры часьцей за ўсё непапулярныя. Аднак праглынуць гэтую горкую пігулку давядзецца, як давялося зьмірыцца з пераўтварэньнямі ў эканоміцы й прамысловасьці, якія пацягнулі за сабою датэрміновы выхад на пэнсію і беспрацоўе. У выніку, у краінах Цэнтральнай Эўропы стала значна меней тых, хто плоціць сацыяльныя падаткі, і значна больш тых, каму патрэбная сацыяльная падтрымка.

*Reuter*

P.S. У Беларусі, паводле самых апошніх зьвестак, з 10.297.800 жыхароў 2.655.000 – пэнсіянэры. Гэта 25,78 працэнта насельніцтва. Колькасьць гэтая расьце, але рэформа пэнсійнай сыстэмы не прадбачыцца.

**Мэмуары**

## «... я ператвараў іх у цэглу»

Фрагмэнт з кнігі вядомага ўкраінскага дысыдэнта генэрала Пятра Грыгарэнкі, дзе распавядаецца пра зьнішчэньне беларускіх помнікаў архітэктуры ў 1930-я гады. Пераклад з францускага выданьня зрабіў Аляксей Арэшка (Бэльгія).

*Старонка 22*



## навіны 1-м сказам......

**БЕСПРАДЗЕЛ.** Менская міліцыя чарговы раз напала на ўдзельнікаў мірнага пікету, які 30 траўня сабраўся каля адміністрацыі А.Лукашэнкі з патрабаваньнем свабоды палітычным вязьням. 50 чалавек паранена, больш за сто пасаджана за краты. 1 чэрвеня за кратамі заставаліся 84 чалавекі, 8 было шпіталявана.

**ІЛЬГОТЫ.** Вярхоўны Савет устанавіў для інвалідаў 50% скідку ня толькі на аплату жыльлёвай плошчы, але й на тэхнічнае абслугоўваньне прыватызаваных кватэраў, на што зь бюджэту будзе выдаткоўвацца 9.5 млрд. рублёў ў год.

**ДАЎГІ.** Агульны доўг Беларусі за энэрганосьбіты павялічыўся з пачатку году на 115 млн. даляраў і склаў амаль 490 млн.

**ЗАТАВАРЫЛІСЯ.** Кошт нерэалізаванай прадукцыі на складах прадрыемстваў Віцебшчыны дасягнуў 92 млн. даляраў.

**ГАРЭЛКА.** Колькасьць заводаў ды заводзікаў, якія вырабляюць гарэлку ў Беларусі дасягнула 60.

**ДАБРАЛІ.** Канстытуцыйны суд Беларусі пачаў дзейнічаць у поўным складзе: Вярхоўны Савет зацьвердзіў яшчэ двух судзьдзяў –дацэнтаў юрфаку БДУ Аляксандра Вашкевіча ды Міхаіла Чудакова.

**ПІВА.** На міжнароднай выставе ў Сочы «Піва-96» менскае піва «Крыніца» атрымала срэбны мэдаль, а піва «Портэр» –бронзавы.

**БОЛЬШ ЗА ДВА НЕ ЗЬБІРАЦЦА!** Менскі гарвыканкам, выконваючы пастанову гарадзкога суда, прыраўняў пікеты да мітынгаў і дэманстрацыяў.

**ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ.** Міністэрства юстыцыі накіравала на адрас Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларусі пісьмовае папярэджаньне пра парушэньне ёю парадку арганізацыі ды правядзеньня ў Менску першатравеньскага мітынгу й шэсьця.

**СЕМКІ.** Рашэньнем Менгарвыканкаму зь 1 чэрвеня забараняецца гандаль сланечнікавымі семкамі ў грамадзкіх месцах сталіцы.

**ПРЭСА.** У Беларусі зарэгістраваная новая газэта для жанчын «Беларусачка».



**МАНАРХІЯ.** У Балгарыю ўпершыню пасьля 50-гадовай адсутнасьці прыехаў былы цар Сімяон II, які быў уцёк за мяжу пасьля Другой сусьветнай вайны. Паводле апытаньня грамадзкай думкі, 40 працэнтаў выбаршчыкаў гатовыя галасаваць за Сімяона на выбарах прэзыдэнта.

# ВЯЛІКІ ПЕРАДЗЕЛ

Дзьве тэндэнцыі вызначаюць сытуацыю ў сфэры сацыяльна-эканамічных адносінаў Беларусі: антырынкавыя абмежаваньні й меркаваная лібэралізацыя. Першы сюжэт дастаткова вядомы — практычна поўная нацыяналізацыя банкаў (Указ №209), шантаж недзяржаўных фірмаў магчымым закрыцьцём (Указ №208), як адзін з галоўных вынікаў — стварэньне велізарнае паводле маштабаў карупцыйнай прасторы пад назваю «Рэспубліка Беларусь».

Сюжэт зь меркаванай лібэралізацыяй патрабуе асаблівага тлумачэньня. Нейк ціха, непрыкметна рыхтуецца прыватызацыя практычна ўсёй муніцыпальнай маёмасьці — да канца году павінна быць рэфармавана 50% аб'ектаў муніцыпальнай уласнасьці ў краіне, у Менску — 80%. У наступным годзе — 80% ва ўсёй краіне. На сёньня прыватызавана толькі 10%. Правядзеньне прыватызацыі ў такія сьціслыя тэрміны азначае рэвалюцыю ў маёмаснай сфэры.

Пад панславісцкія лёзунгі ідэолягаў рэжыму ў Беларусі павялічваецца ўплыў заходняга капіталу. Пасьля прыходу ў нашую краіну карпарацыі FORD дадзены сыстэмны старт гэтаму працэсу.

Што чуваць пра расейскія інтарэсы? Расейскія манаполіі ўжо авалодалі нафтапрамысловым комплексам Беларусі. Таму што гэта манапольны капітал. У астатніх сфэрах расейскія фірмы мала што могуць прапанаваць. Але для прыватнага расейскага капіталу ў Беларусі таксама неспрыяльная атмасфэра, расейскім банкам тут не лягчэй, чым беларускім. Іх прысутнасьць абмяжоўваецца праз ліцэнзіі на адкрыцьцё філіяў. Рэч у тым, што скандальнавядомая дамова пра «Супольнасьць» дэкляруе забеспячэньне «роўных правоў на набыцьцё маёмасьці ва ўласнасьць, валоданьне, карыстаньне й распараджэньне імі на сваіх тэрыторыях» толькі для ФІЗЫЧНЫХ АСОБАЎ. Значыць, прыток расейскага капіталу й дзейнасьць расейскіх фірмаў (юрыдычных асобаў) у Беларусі можна будзе рэгуляваць ня менш, чым беларускіх. Таму сьцьверджаньне, што ўсе багацьці краіны рэжым рыхтуе для здачы Расеі, зьяўляецца спрошчанай інтэрпрэтацыяй сытуацыі ў сфэры маёмасьці.

Усе названыя фактары гавораць за тое, што ў Беларусі рыхтуецца стварэньне рынкавага сэгмэнту — маёмаснымі правамі й пэўнай эканамічнай свабодай надзяляецца невялікі асяродак абраных. Кола ўласьнікаў аддзяляецца, бліжэйшым часам можна будзе пачуць пра судовыя кампаніі супраць кіраўнікоў некаторых фірмаў. Багацець будзе дазволена толькі набліжаным. Гэта ў праекце.

Але функцыянаваньне нават абмежаванага рынкавага поля патрабуе існаваньне рынкавай інфраструктуры. Нават таму колу, якое сёньня абіраецца, немагчыма эфэктыўна праводзіць камэрцыйную дзейнасьць без наяўнасьці рэклямнага сэктару, сфэры паслугаў і г.д. Вось тут беларускае грамадзтва можа адваяваць свае пазыцыі. Прыўнесьці хоць нейкую нармальнасьць у жыцьцё беларускага грамадзтва магчыма праз эканамічную экспансію, праз эканамічны рэванш у рэжыму. Гэта значыць — праз эканамічную актыўнасьць.

Алег Дзярновіч

# Зламаны парасон

Працяг са старонкі 1

*Кожны новы «хапок», чарговы пагром у арганізацыі ці ў рэдакцыі, наступнае масавае біцьцё цывільнага народу, нібы вір, укручвае новых і новых удзельнікаў. Ствараецца новая субкультура рэзыстэнцыі, са сваімі новымі героямі, новымі лёзунгамі, фальклёрам і этнаграфіяй (стужкі, хусткі ад «Levi's», фенечкі і г. д.). У супрацьстаяньне разам з вучнямі ўцягнутыя і іх сумленныя настаўнікі, сёньня ўжо можна загінаць пальцы, падлічваючы, колькі прафэсараў было зьбіта, колькі выкладчыкаў, навукоўцаў прайшло праз пастарункі. Ад самадурства хама пры ўладзе не ратуе нішто: ні ўзрост, ні аўтарытэт. Закапала над усімі. Парасон ужо не ўратуе беларускага філёзафа ад навальніцы.*

Сяргей Харэўскі



Менск. Праспэкт Скарыны. 30 траўня.

## Краіна

**БАНКІ.** Сваім чарговым указам А.Лукашэнка істотна абмежаваў жыцьцяздольнасьць камэрцыйных банкаў. Цяпер памеры заработнай платы ўсіх банкаўскіх супрацоўнікаў будуць вызначацца Нацыянальным банкам у адпаведнасьці з Адзінай тарыфнай сеткай працаўнікоў Рэспублікі Беларусі, як гэта робіцца ў дачыненьні да бюджэтнікаў. Таксама банкі абавязаныя паведамляць Нацбанку пра кожны крэдыт, што перавышае 10 тыс. даляраў ЗША. Указ прадугледжвае павелічэньне долі дзяржавы й дзяржаўных арганізацыяў у статутных фондах камэрцыйных банкаў і прадпісвае правесьці сёлета з 1 верасьня перарэгістрацыю саміх банкаў і пераатэстацыю іх кіраўнікоў ды галоўных бугальтараў. Наступным крокам можа быць толькі поўная нацыяналізацыя.

**ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ.** У інтэрвію «Інтэрфаксу» намесьнік міністра ўнутраных справаў Іван Юркін прадставіў статыстыку злачыннасьці ў Беларусі. Так, летась было зарэгістравана 21.4 тыс. злачынствы супраць асабістай маёмасьці. У тым ліку: 1872 рабункі, 487 разбояў і 19 тыс. крадзяжоў. Зь іх былі раскрытыя адпаведна 54.2%, 67% і 47.4%. За гэтыя злачынствы было асуджана болей за 12 тыс. чалавек. Кожны пяты зь іх – непаўналетні. 50% злачынстваў было ўчынена злачыннымі групамі. Толькі за 4 сёлетнія месяцы выяўлена 8206 удзельнікаў такіх групаў. Доля ўгонаў аўтамабіляў склала 4.3%, а раскрывальнасьць такіх злачынстваў склала 36.5%.

**ЭКАЛЁГІЯ.** Бярэзінскаму біясфэрнаму запаведніку быў уручаны дыплём Эўропы. Гэта адбылося пасьля двухгадовага вывучэньня яго экалягічнага стану. Дыплём Эўропы выдаецца за дасягненьні ў галіне аховы навакольнага асяродку ў межах агульнаэўрапейскай гідралягічнай сыстэмы. Атрыманьне гэтага дыплёму дазволіць уключыць Бярэзінскі запаведнік у міжнародныя турысцкія маршруты. У краінах СНГ гэта толькі трэці такі выпадак.

**ВАЛЮТА.** У сувязі з штучна нізкім курсам даляру ў адносінах да «зайца» набыць валюту законным шляхам стала немагчыма. Нявыгадна таксама здаваць валюту ў мяняльныя канторы. Таму людзі купляюць ды здаюць даляры праз ценевыя каналы. Звычайна прафэсійныя мянялы-мафіёзі, трымаючы сваю марку, не падсоўваюць «ліпавых» даляраў. Але часта людзі купляюць валюту ў тых, хто проста хоча яе прадаць, падыходзячы да мяняльных кантораў. У гэтым выпадку рызыка дужа вялікая. Днямі творчая група «Майстар Паўль» правяла ў Менску цікавы экспэрымэнт. Яны прапанавалі пяцідзесяці грамадзянам з тых, што стаялі ў чэргах пры мяняльных канторах, фальшывую стодаляравую купюру. Ніхто зь іх не заўважыў падробкі ды нават не паспрабаваў праверыць сапраўднасьць грошай на банкаўскіх дэтэктарах.

## Пошта

### «Упор лёжа прыняць!»

Гэта адна з самых частых камандаў «пастухоў» (сяржантаў) падчас выхаваўчай працы з «курсамі» (курсантамі Вучэбнага Цэнтру). Не даходзяць словы, кепска працуе «бубен» — каманда «ўпор лёжа» дзейнічае эфэктыўна — «курсы» выдрэсіроўваюцца на ўзорных салдатаў пячанскай штампоўкі. «Два солдата из Печей заменяют тягочей» — сьціплы прыклад саматужнага армейскага фальклёру.

У першыя тыдні, да прысягі, ідзе «абломка душараў», карантын пасьля «гражданкі». Адзін «курс» узяў у сталоўцы два карцы чаю, «пасекалі» (заўважылі) сяржанты. Пасьля вячэры, у казарме залётчык залязае на два зэдлікі, пад столь, ён павінен усухую зьесьці кулітку хлеба. Уся рота — упор лёжа, пад лік адціскаецца, «пастухі» «грузяць» — чаго і як рабіць нельга. Адцісканьне працягваецца больш за чвэрць гадзіны, нехта «умер», на яго — наезды. Пасьля залётчыка нельга і пальцам крануць, за тое, што ўсю роту падставіў, яго «жаба задушыць», г.зн. сорам перад саслужыўцамі.

Паказальныя ілюстрацыі да тэзаў Э.Фрома з «Анатоміі чалавечай дэструктыўнасьці» — армейскі побыт. На прыбіральню, памыцца даецца 5-7 хвілінаў. На 70 «курсаў» — 3-4 «очка» і 6-8 кранаў — адно з найбольш канфліктных месцаў, ніякіх высокіх матэрыяў, усё элемэнтарна. Хто больш спрытны, здаравейшы і нахабны, таму выгоды. Было, як пакараньне за нейкія залёты, не дазвалялася ўвогуле карыстацца прыбіральняй і ўмывальнікам, —у іншыя роты, на вуліцу, вашы праблемы.

Увогуле «пекла» для «курсаў» цягнецца да канца «стадзёнкі», 4 месяцы муштры, дрэсіроўкі, зьдзекаў, маральна-фізычнае выжываньне, пасьля пэўныя свабоды. Мы самі ўжо службы панюхалі, так проста «на панта ня возьмеш», у працэсе жыцьцядзейнасьці прыцёрліся паміж сабою, зь сяржантамі, уцягнуліся ў рытм, прызвычаіліся да «лямкі».

Важную ролю ў арміі мае падзел на «сваіх» і «чужых»: свая рота, батальён, полк і чужыя роты, палкі, якія трэба «бамбіць» і «чмырыць» пры магчымасьці і без залётаў, каб наша рота заўжды была на вышыні. У сталоўцы (самае галоўнае поле бою) ніхто з чужых, хай хоць сяржанты ці дзембелі, ня мае права стаць у чаргу нашай роты — іх «кантузяць». Так званая «дзедаўшчына» ў выглядзе фізычнага зьбіваньня з боку «пастухоў» — рэдкае выключэньне, за гэта строгі перасьлед камандаваньня, значна часьцей бываюць бойкі курсантаў паміж сабою. На вечаровай праверцы трасуцца шыбы й падлога, калі дзясяткі здаровых глотак равуць у адказ на пытаньне: «Колькі зор на небе?» (Колькі дзён да канца «стодзёнкі»?) — «Дваццаць восем!»

Пасьля цяжкіх тактык, шматкілямэтровага кросу на ўсе Печы чуваць покліч роты і ўсіх падразьдзелаў вайсковай разьведкі Ўзброеных Сілаў: «Кто мы? — Волки! Что нам надо? — Крови!» Гучала ўражвальна, хлопцы глотак не шкадавалі, хоць так выпускаючы злосьць за ўціск і цяжкасьці.

Кормяць курсантаў адносна цярпіма, але пастаяннае пачуцьцё голаду, пры першай магчымасьці паглынаюцца неймаверныя аб'ёмы ежы. Вялікія фізычныя і маральныя нагрузкі, пастаянны рух, багата часу на сьвежым паветры, у лесе, і кросы, кросы — усё гэта разьвівае сілу і вынослівасьць у большасьці, хоць нямала і зламалася. Да мікрадзембеля (выпуск з вучэбкі) — мой асабісты прыклад, я павялічыў масу цела на 12 кг. Цераз паўгода першы раз на 3 сутак прыехаў дадому, дык родныя і сябры жартавалі: «Ты што, на курорце адпачываў?»

Пры наяўнасьці волі і, зразумела, пачатковага ўзроўню падчас службы можна паздаравець, набыць вынослівасьць і жылістасьць. Пасьля вучэбкі служба ў войсках — «расслабуха», але сытуацыя там у шмат якіх момантах адрозьніваецца, цяжка з дысцыплінай і статутным парадкам, больш жорсткія праявы «неуставняка».

Але крымінальны перасьлед прымушае пабойвацца, гайкі закручваюць. З таго факту, што ў войсках малыя роты ў параўнаньні з вучэбкай, вынікае іншы расклад жыцьця воінскага калектыву са сваімі плюсамі і адмоўнымі наступствамі.

Апошняе здарэньне ў войсках. 12 траўня, вайсковы гарадок Уручча. Пакрыўджаны на дыскатэцы афіцэр для разборак прывозіць з палка 30 салдат-дзембеляў. За хвіліну ўся дыскатэка «пасьцелена», салдацкі рэмень у дасьведчаных руках — страшная зброя. Прыйшлося выклікаць спэцназ унутраных войскаў, каб «узяць сытуацыю пад кантроль».

Рознае ў арміі бывае, пад гітару добра сьпяваць, у футбол гуляць, з «жалезам» і на турніках займацца, але пэрманэнтна даводзіцца «браць сытуацыю пад кантроль».

Аўген Касьцюшка

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991

| | |
|---|---|
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| навіны | Уладзімер Бараніч |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| мантаж | Лявон Раманчык |
| набор | Тацяна Чуйвід |
| стыліст | Антон Кузьміч |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) | Зьміцер Бартосік |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71**
**Падпісны Індэкс 63125**
**Тэл./факс 36-76-75**

*Ганна Матусэвіч*

# Койданаўскі дыярыюш



14.05. Балела галава, я ўклалася ўжо была спаць, кінуўшы ўсю работу на мужа. Прыйшла суседка зь бядою: ня ўлезе ў хату, замкнуліся дзьверы. Муж спусьціў на вяроўцы ейную дзяўчыну на балькон ніжэйшага паверху.

16.05. Прысьніўся майму мужу прарочы сон (ня мне адной сьняцца!) што пракурор разьвёў у розныя бакі нас і бэнээфаўцаў. Вось хоць бы й нашы местачкоўцы: займаюцца распаўсюджваньнем «Народнай волі» дзеля сваіх вузкіх мэтаў. А мне было сказана: пра нас (бэнээфаўцаў) не пішы. Ня буду. Але ведайце: калі хто сказаў, што **Бога няма**, значыць і яго самога ня будзе. Вось таму ў роспачы і вырвалася ў Ларысы Геніюш:

«Дам табе я чарку
На твой нацыянальны сон,
Народ даярак і сьвінарак,
Народ разяваў і варон!»

Трэба адзначыць, што народ гатовы быць вольным, не гатовая наша інтэлігенцыя.

19.05. Успомніла, як некалі ў Латвіі Зоя дзялілася са мной досьведам сваіх 10-гадовых узаемадачыненьняў. Віцька, ейны муж, даверліва расказваў ёй, маладой жонцы, пра свае цяперашнія захапленьні жанчынамі. І яна яго слухала з захапленьнем. Ці ня ёсьць у гэтым неабмежаваным даверы вышэйшая Жаночая Мудрасьць?

... Кажуць, што прарабу Віцю Амбражэвічу, які вешаўся на працы, уручылі даведку, што ён «душевнобольной». На ягонае месца ўлавілі беглага прараба Юру Вашкова і змусілі адрабляць паншчыну ў СГП-42. Сумна...

... Сёньня мне ўсё згадваецца мінулая вольнасьць маёй маладосьці ў Латвіі. Было лета, сьпёка. Валодзя мне прызнаваўся, што ходзіць па сваёй кватэры зусім голы, а свайго сыночка ласкава называе «гадёнышем».

... «Невозможно представить разнообразие людских сознаний. Пусть лучше знающие поскучают, нежели навсегда будет кто-то оттолкнут» (Мозаика Агни Йоги).

Ці не дзеля гэтага невядомага «кто-то» я сумую ў «Нашай Ніве»?

... «Малпаваць» — несьвядома капіяваць чужыя паводзіны. «Тарзаніць» — чытаць пустыя кнігі. Устойлівыя выпрацаваныя «дыялектныя» словы нашага дому.

20.05. Вялікі грэх не наведаць хворую маці ў Латвіі! Я ўжо зьбілася і з грошай, і з ног, ходзячы да жывадзёраў па іхнія дазвольныя паперы. Але, калі ў зьнямозе сваіх сілаў, прашу ў Бога здароўя для жывадзёраў, — яны раптам мне дапамагаюць. Дзякуй ім!

... У Беларусі слова калябаранцтва перакладаюць як «каля Баранавічаў». Гэта Вам ня Латвія.

21.05. Ці можна падзяліць любоў? Любоў, як дапамогу, трэба скіраваць на слабага, хоць і гэта не заўсёды правільна. Часта дужаму дапамога патрэбная болей.

Я ўзялася паднесьці да школы Віталіку гаршчкі з астрамі. Вераніка аж закіпела ад злосьці й сьлёз. Я мусіла кінуць Віталіка з гаршчкамі ды падабраць Вераніку з ранцам. Па дарозе да школы прагнала ейную злосьць і выцерла сьлёзы.

22.05. Я адкрыла «ананасавы» кампот. Наверсе — кабачкі; унізе — алыча. Міколка смалой прычапіўся да мяне, каб дастала алычу. Хоч-ня хоч, мусіла перакладаць у другі слоік кабачкі, каб дастаць алычу. Так дзіцячая цікаўнасьць прымушае нас дакопвацца да сутнасьці рэчаў.

23.05. Яшчэ нядаўна і зорным, і кветкавым дажджом ліліся на мяне нечыя шматколерныя думкі. Цяпер зусім пуста ў душы. На каго льюцца цяпер мае думкі? Няхай усім будзе Сьветла.

24.05. Учора ўвечары мела відзежу нейкага безаблічнага мужчыны зь белай-белай галавой. Пэўна трэба чакаць вестmember.

25.05. Узяла на калені, прытуліла, загарнула шырокім халатам Міколку да сябе. Ён сядзеў ціха-ціха. Як мы, спужаныя вясковыя дзеці, што хаваліся некалі на ўскрайку лесу пад прасторнай бабчынай спадніцай ад навальнічнага дажджу. Сымбаль Маці Беларусі. Ці падрастуць калі-небудзь ейныя дзеці?

26.05. Гэта толькі Вам здаецца, што я цераз 2 тыдні пасьля адведкаў Алеся Салаўя, зноў вярталася ў Крысава, каб падабраць згублены пасак. Трава ўжо вырасла вялікая, але Віталік адшукаў такі, выцягнуў жоўты пасак, замест жоўта-зялёнага. «Няма таго, што раней было», але й шкадаваць няма чаго. Я зайшла ў Радзюкову хату да Боханаў і падала гаспадыні «Нашу Ніву». Яна выйшла за мною ў сенцы, распытвала пра ўсё, а я ёй шчыра адказала. Між іншым, папыталася, колькі каштуе «НН» і дзе яе можна выпісаць.

У суседняй Забалаці калгас прадае таннае смачнае піва па тысячы за літар. Людзі прыяжджаюць з бочкамі з Фаніпаля і з Койданава. Думалі пажывіцца й мы, але не пашанцавала. Піва яшчэ варылася.

Мы ехалі праз лес у сваю маленькую вёсачку Камароўшчыну. Сыпаў нетаропкі, гаспадарлівы дожджык. У лесе было цёмна, затое зелена й чыста. У нашых душах — сьветла і ўрачыста. Як на Сёмуху. Некалі, у маленстве, мы зьбіралі ў складчыну ссабойкі й распальвалі ў лесе вогнішча. А цяпер мы проста сышлі з ровараў, адшукалі ў глыбіні лесу сухую палянку пад ялінамі й сядзелі там, мокрыя, як цюцікі, але й шчасьлівыя, усьведамляючы, што на ўсёй Беларусі такіх дурняў толькі трое: я, мой муж і наш сын Віталік.

27.05. Сёньня хадзіла да начальніка СГП-42 Камушэнкі П.Н. прасіць за Надзею Каралінскую. Няшчасная жанчына жыве на прыватнай кватэры зь дзьвюма маленькімі дзеткамі. Яна ледзь-ледзь пазбавілася ад другога мужа-п'яніцы. Надзя й сама некалькі разоў прыходзіла зь лікёрам ды цукеркамі да начальніка, каб той зьлітаваўся і даў ёй прусаковы пакойчык у інтарнаце на Фурманава. У адказ чула толькі зьнявагі, да якіх ёй не прывыкаць.

Начальнік, убачыўшы мяне, відаць, адчуў няўпэўненасьць у сваіх сілах, бо тэрмінова выклікаў падначаленых. Але гэтае «войска» было слабое, бо большы хаваўся за сярэдняга, сярэдні за меншага... А я сказала ім, што гэта я вінаватая, бо не памагла Колю Макаеду, Віцю Амбражэвічу і прасіла, прасіла іх, каб памаглі Надзі Каралінскай.

Ці паможам мы самі сабе? Бога турбаваць у гэтым выпадку ня варта, зрэшты, як і адміністрацыю прэзыдэнта, куды зьбіраецца ехаць Надзя.

*Зьміцер Бартосік*

# Мэлёдыі маёй настальгіі



Прыемная штука — гэта настальгія. Асабліва калі нібыта ёсьць куды азірацца і быццам бы яшчэ ня страшна зазіраць наперад. Асабліва калі ведаеш, што наперадзе. Праз год з гадамі яшчэ столькі шанцаў для перамог, а праз пару хвілінаў — канцэрт сьпявачкі, якую я, здаецца, ведаю так даўно. І якая так даўно не давала канцэртаў.

Яе песьні я ўпершыню пачуў у клясычнай сытуацыі бардаўскага жанру — у гасьцях, на дрэннай касэце ў дрэнным магнітафоне. Адзінае, што гучала чыста, — голас сьпявачкі, які перакрываў недасканаласьць інструмэнту, скрыпы музагрэгату «Весна» і прымушаў мяне прапускаць міма вушэй тое, што распавядалі сябры. У тым тлуме мне так і не далі паслухаць, аб чым сьпявала пясьнярка, ды я ўсё ж выпрасіў касэту «на час» і, ідучы дадому, насьвістваў праніклыя ў душу мэлёдыі. Як аказалася, надоўга праніклыя...

Пачатак быў акадэмічны. Чатыры прыгожыя дзяўчыны па чарзе занялі месцы ля сваіх строгіх інструмэнтаў. За струнным квартэтам выйшла Вольга і з ходу адарыла публіку самым дарагім сваім шэдэўрам. «Запяі мне песьню» на вершы Ларысы Геніюш. Скрыпкі зь віялянчэляй яшчэ больш распальвалі тугу па «нашым, не чужым». Па скінутых, ды ня палых сьцягах, па так хутка прамінулых часах, калі беларускае слова пачало даходзіць нават да самых «вытанчаных» вушэй, калі многія паверылі ў народ, краіну і сябе ўзур'ёз. І мала каму ўяўлялася — што можа быць «усур'ёз і надоўга».

У геніяльнасьці гэтае песьні я пераконваўся дзясяткі разоў ў самых розных паводле нацыі і ўзросту кампаніях. З кожным разам радуючыся за аўтарку і, невядома чаму, за сябе. Яна гучала самым важкім аргумэнтам у магчымых спрэчках пра мову і БНФ. І таму спрэчак ніколі не ўзьнікала.

На невялікую залю «Вольнае сцэны» народу было ўдосталь. Збольшага пасталелая моладзь канца 80-х, якая ведала і Вольгу Цярэшчанку, і яе песьні. Таму адчуваньне адной вялікай кампаніі не праходзіла ўвесь вечар. Нават беларускія хныкі дзяцей яшчэ больш дадавалі залі нейкай хатнясьці. Ды дзеці своечасова выводзіліся, каб не замінаць дарослым слухаць песьні, якія яны чулі неаднойчы і якія сабралі іх зноў, пасьля трох гадоў маўчаньня іхняе аўтаркі. Дзіўна, але яны, гэтыя песьні, зусім не састарэлі. І, дзякуй Богу, справа тут ня ў іх актуальнасьці. А, напэўна, у іх песеннасьці. У іх аўтаркі адбылося тое, што ўдаецца адзінкам — дакладнае ўгадваньне мэлёдыі для самага трыбунна-актуальнага верша. Нават яе заклік «Гэй, сьвядомы беларус, уздымі свой сьцяг», агучаны яе гітараю, ня мог выклікаць у мяне прыхаванае ўсьмешкі. Таму дарэмна Вольга перапрашала публіку за празьмерны патас. Публіка ведала, куды ішла. Яна сапраўды засумавалася па прафэсійным голасе, ды ўвогуле па прафэсіяналізме ва ўсім. Асабіста я ўпершыню прысутнічаў на бардаўскім канцэрце, які быў прадуманы ад і да — ад зьмены гарнітураў да ўдзелу ў імпрэзе бардэсы Марускі й паэткі Вольгі Куртаніч — і прайшоў на адным дыханьні.

З часоў тэатральнага навучаньня памятаю адно практыкаваньне. Трэба за паўхвіліны гучаньня нейкай мэлёдыі выдаць свае асацыяцыі, народжаныя ёю. Слухаючы тую, так і нявернутую мною касэту, я бачу адну й тую ж карціну. Мой горад, мая вуліца, мой дом. Дзе зьбіраецца цудоўная кампанія маладых людзей, каб пагаманіць пра будучую «Нашу Ніву», будучую Беларусь і паслухаць песьні, можа нават тады і запісаныя. Толькі мяне там няма. Можа, настальгія мая несапраўдная? Дык чаму ж я ўсё трымаю й слухаю тую зайграную касэту?..

*Севярын Кляткоўскі*

# Трэцяе вока



Ёсьць у мяне два сябрукі дзяцінства — Дзіма й Віталік. Летась, незадоўга перад рэфэрэндумам здарылася зь імі вось якая гісторыя.

Лайдачылі яны на пляцы Якуба Коласа, аж раптам Віталік кажа, што ўнутраны голас падказвае яму сьпяшацца ў гастраном «Цэнтральны».

Праз колькі часу ўлятаюць яны ў тую краму, і... сустракаюць трэцяга сябрука-лайдака, пры грошах, які прапаноўвае тое, чаго ім акурат не хапала — наладзіць гулянку.

Толькі пачалі выбіраць, чаго б выпіць, як зьнянацку Дзіма заяўляе, што ў яго адчынілася «трэцяе вока» і што яму тэрмінова трэба бегчы на таемны покліч гэтага самага «вока».

З шалёнай радасьцю ў сэрцы Дзіма памкнуўся да прызначанага таемнай сілаю месца — на скрыжаваньні вуліц Энгельса й Сьвярдлова. У чаканьні дзіва ён амаль падбег да пераходу, і... атрымаў наймацнейшы ўдар кулаком у лоб. Бамбіза ўлупіў яму бяз словаў, нават не суцішваючы ходу — проста так.

Я ўзгадаў гэтую гісторыю ў зьвязку з двухгодзьдзем сумнавядомых выбараў першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі.

Алягічнасьць і адначасовая пасьлядоўнасьць учынкаў ППРБ наводзіць на думку аб тым, што ягонымі дзеяньнямі кіруе ўнутраны голас. Містыка менавіта такога кшталту лучыць яго з сваімі прыхільнікамі, бо на выбарах 1994 году ў вялікай часткі дарослых беларусаў расплюшчылая «трэцяе вока». Але праз сем месяцаў валадараньня новага беларускага гаспадара «вока» гэтае пачало зноў прычыняцца. Гэта пацьвердзілі вынікі рэфэрэндуму, у якім за прапановы прэзыдэнта прагаласавала менш выбаршчыкаў за тую колькасьць, што галасавала за прэзыдэнта на выбарах. Цяпер, праз год пасьля рэфэрэндуму застаецца спадзявацца, што «трэцяе вока» пазачыняецца ў даверлівых да містыкі людзей. Пакуль мы ўсе не дабеглі да скрыжаваньня...

Вера ў містыку — рэч няўдзячная. Вось мае сябрукі-лайдакі, якія засталіся тады ў «Цэнтральным», паслухалі далей Віталікавы ўнутраны голас — набралі гарэлкі etc. — а на раніцу прачнуліся немаведама дзе, бяз грошай і пабітыя. Дык гэта ж яшчэ ня самы горшы варыянт.

Тэхаскаму каўбою Джо, які даверыўся свайму ўнутранаму голасу, пашанцавала значна меней. Калі памятаеце, унутраны голас падказаў яму месца, дзе трэба капаць скарб. Джо распачаў працу, але праз шмат часу ўпёрся ў цьвёрды грунт. На гэта ўнутраны голас выказаў меркаваньне пра памылковасьць свайго прагнозу. Але каўбою было ўжо ўсё адно — ён ня мог выбрацца зь яміны.

# Мікрамадэль Эўропы

Працяг са стар. 1

суседзяў. Пасол Уладзімер Васіленка з украінскага МЗС і дарадца прэзыдэнта Кучмы Андрэй Фіялка ня выключылі, што ў будучыні Ўкраіна можа зьмяніць свой статус і разгледзець далучэньне да NATO.

У сваю чаргу Беларусь інтэгруецца з Расеяй, уваходзіць у мілітарныя структуры СНГ і пярэчыць пашырэньню NATO. Віцэ-міністар Антановіч тлумачыў, што «шлях інтэграцыі з Расеяй» адпавядае думкам большасьці беларускага грамадзтва. – Трэба гэтым шляхам пайсьці, каб спраўдзіць, ці гэта правільны выбар. Іншым спосабам наша грамадзтва не пераканаеш, – сказаў ён і дадаў: – Беларускія ўлады хочуць ісьці пранатаўскім шляхам, але найперш мусяць выпрабаваць расейскую сьцежку.

Зь Беларусі прыехалі таксама прадстаўнікі апазыцыі: Станіслаў Багданкевіч і Зянон Пазьняк. Іх меркаваньні былі дыямэтральна супрацьлеглыя афіцыйным, яны выказваліся за інтэграцыю з заходнеэўрапейскімі структурамі.

На гэтым фоне цікава выглядала дыскусія пра тое, ці могуць нашыя краіны супрацоўнічаць у галіне бясьпекі.

Андрэй Фіялка падкрэсьліў, што гэтае пытаньне будзе лякмусавай паперкай для будучыні Эўропы. – Калі ўдасца, то паўстане адзіная агульнаэўрапейская сыстэма, калі не, то новы падзел Эўропы будзе непазьбежны.

Падобным чынам ацэньваюць сытуацыю і польскія ўдзельнікі: –Неўзабаве нашыя краіны будуць у розных структурах бясьпекі і высьветліцца, ці межы гэтых структураў будуць лініямі падзелу ці лініямі супрацоўніцтва, – сказаў Януш Анышкевіч.

Ул.Васіленка прапанаваў сьпіс тэмаў трохбаковага супрацоўніцтва: палітычныя кансультацыі, вайсковатэхнічнае супрацоўніцтва, узаемадзеяньне ў рамках «Партнэрства дзеля міру», узаемападтрымка ў памкненьнях да эўрапейскай інтэграцыі (напрыклад, Польшча і Ўкраіна могуць дапамагчы Беларусі ўвайсьці ў Раду Эўропы), супольныя інвэстыцыі. Польшча і Ўкраіна павінны пераконваць усіх суседзяў і Захад, каб павярнуліся да Беларусі, – сказаў Васіленка. Фіялка прапанаваў сустрэчу прэзыдэнтаў трох краінаў і дыскусію паміж імі пра вынікі пашырэньня NATO.

Усе ўдзельнікі хочуць працягваць трохбаковы дыялёг. Верагодна наступная канфэрэнцыя ў такім складзе адбудзецца праз паўгода ў Кіеве.

*Gazeta Wyborcza, 28 траўня*

# Дзяржава non grata

Працяг са стар. 1

што міністар замежных справаў Расеі Прымакоў па сваім менскім візыце публічна дэкляраваў у Кіеве мэтазгоднасьць удзелу ў маскоўскім саміце ня толькі Ўкраіны, але й Беларусі. Сп. Саньнікаў расцаніў факт незапрашэньня А.Лукашэнкі як праяву непавагі да РБ.

Варта адзначыць, што зьнешнепалітычныя ведамствы асноўных заходніх краінаў не прыслухаліся да тае часткі свайго істэблішмэнту, якая прытрымваецца больш гнуткай лініі ў адносінах зь недэмакратычнымі дзяржавамі. Прыкладам, колішні пасол ЗША ў Беларусі Д.Шварц ўважае, што Амэрыка зрабіла памылку, не настаяўшы на тым, каб Беларусь удзельнічала ў маскоўскім саміце.

Рэзка ацаніў сытуацыю старшыня камісіі міжнародных справаў ВС П.Краўчанка: Праз дзесяць гадоў пасьля Чарнобылю можа стацца, што мы застанемся сам-на сам з гэтаю бядой. У нас не актыўная, не нацыянальна-дзяржаўная пазыцыя, а пастава чаканьня: калі нехта штосьці пакладзе нам ў рот. Вельмі добра, што прэзыдэнт паехаў на канфэрэнцыю па Чарнобылі ў Вену, але там была навуковая канфэрэнцыя. У той час, калі гранды вялікай палітыкі абмяркоўваюць пытаньні, датычныя трох славянскіх нацыяў, мы апынаемся па-за гульнёй...

Варта заценіць, што на тым крамлёўскім саміце ўкраінскі прэзыдэнт дамогся канчатковых гарантыяў «вялікай сямёркі» на выдаткаваньне ягонай краіне звыш 3 млрд. USD дзеля ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

### І ЗНОЎ ЗА ВЫЛІКАМ БЕЛАРУСІ

3-4 траўня на швэдзкай абтоцы Готлянд адбылася сустрэча прэм'ер-міністраў 11 дзяржаваў балтыйскага рэгіёну. У час двухдзённай дыскусіі найперш былі разгледжаныя пытаньні эканамічнага супрацоўніцтва, экалёгіі ды пашырэньня NATO.

Рада краінаў Балтыйскага мора (ці Балтыйская Рада) была ўтворана ў сакавіку 1992 г. з ініцыятывы ФРГ і Даніі і дзейнічае на ўзроўні міністраў замежных справаў.

Балтыйскае мора — адно з самых забруджаных у сьвеце, таму галоўная праблема на паседжаньнях Балтыйскай Рады (БР) —ахова навакольнага асяродзьдзя. Большая частка рэк, што цякуць праз беларускую тэрыторыю, нясуць свае воды да Балтыкі.

Да БР належаць ня толькі краіны, якія маюць непасрэднае выйсьце да аднайменнага мора, але й дзяржавы, непасрэдна прылеглыя да гэтага рэгіёну, якія маюць там свае жыцьцёвыя інтарэсы — Ісляндыя й Нарвэгія.

Значнасьць гэтае эўрапейскае структуры падкрэсьлівае той факт, што, апроч прэм'ер-міністраў Ісляндыі, Нарвэгіі, Даніі, Швэцыі, Фінляндыі, рэспублікаў Балтыі й Польшчы, у саміце БР узялі ўдзел канцлер ФРГ Коль ды расейскі прэм'ер-міністар Чарнамырдзін.

На балтасаміце таксама дыскутаваліся пытаньні эканамічнае каапэрацыі. Адным з самых паважных параграфаў парадку дня стаўся намер дапамагчы менш разьвітым сябрам БР (краіны Балтыі, Польшча й Расея), якія выкарыстоўваюць шкодныя ўгнаеньні, у рэканструкцыі сваёй сельскай гаспадаркі.

Сярод прэм'ер-міністраў, што сабраліся ў Швэцыі, не было прадстаўніка Беларусі. Некалькі гадоў таму Менск у асобе тагачаснага міністра замежных справаў П.Краўчанкі зьвяртаўся з просьбай аб прыёме ў шэрагі БР. Можна меркаваць, што сёньняшнія кіраўнікі беларускай зьнешняй палітыкі, ня маючы ілюзіяў наконт іміджу сваёй краіны, спынілі спробы ўвайсьці ў БР.

### ЗАГАДАНА – ВЫЖЫЦЬ!

Нельга не заўважыць, што рэзкае пагаршэньне міжнароднага іміджу Беларусі пачынае ўсё болей адбівацца на матэрыяльным становішчы жыхароў краіны. Прыкладам, у выпадку ўдзелу РБ у готляндзкім саміце, меліся ўсе шанцы атрымаць фінансавую дапамогу ў будаўніцтве сучасных ачысных збудаваньняў на буйнейшых прадпрыемствах Горадні, Берасьця, Наваполацку ды Вялейкі. Гэта дазволіла б заняць працай частку працоўнае сілы, якая цяперака вызваленая з прычыны падзеньня аб'ёмаў вытворчасьці...

Незапрашэньне беларускага кіраўніцтва на паважныя міжнародныя сходы ўжо сталася свайго роду правілам. А.Лукашэнка так і не дачакаўся запросінаў на сустрэчу прэзыдэнтаў Цэнтральнае ды Ўсходняе Эўропы (7-8 чэрвеня, Польшча), дзе зьбяруцца ягоныя калегі са Славеніі, Вугоршчыны, Аўстрыі, Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Нямеччыны, Італіі ды Ўкраіны.

Горкі смак пілюляў эўраізаляцыі беларускаму рэжыму зьлёгку падсаладзіла запрашэньне шэфа МЗС Сянько на канфэрэнцыю Цэнтральнаэўрапейскае Ініцыятывы, што гэтымі днямі адбываецца ў Вене. Але наўрад ці гэты факт можна разглядаць інакш, як аванс на далёкую будучыню. Рэч ў тым, што венскае спатканьне міністраў замежных справаў ладзяць для краінаў, якія разглядаюцца як патэнцыйныя кандыдаты на ўступленьне ў Эўрапейскі Зьвяз. Нават гэткія лідары рэформаў Цэнтральнае Эўропы, як Чэхія, Вугоршчына, Польшча ды Славенія (разам з «пузатай драбязою» накшталт Кіпру з Мальтаю), у стане разьлічваць на сваё рэальнае далучэньне да Эўразьвязу не раней, чым у 2000-2002 г. З улікам «дасягненьняў» Беларусі на цярністым шляху рынкавых рэформаў ды дэмакратызацыі грамадзтва, гэты тэрмін можа расьцягнуцца якраз на тыя славутыя 40 майсеевых гадоў. Спадарыэўрапейцы разьлічылі дакладна — за падобны час, перафразуючы ўсходнюю мудрасьць, «або Хан сканае, альбо Ішак падохне, ці Насрэдзін (Народ) памрэ»... Зрэшты, у жывучасьць апошняга хочацца верыць.

Вадзім Александровіч

# 30 гадоў культурнай рэвалюцыі



У 1966 г. Мао Цзэ Дун даў сыгнал культурнай рэвалюцыі, якая доўжылася дзесяць гадоў. Баючыся быць адсунутым ад улады пасьля правалу «Вялікага Скачка Наперад» у 1958 г. (гэтая спроба дагнаць Захад прывяла да голаду, які праглынуў 43 млн. ахвяраў), Мао кінуў у бой 20 млн. чырвоназорнікаў, узброеных чырвонымі кніжачкамі. Культурная рэвалюцыя — гэта мільён ахвяраў, барбарства, якое ўключае задакумэнтаваныя выпадкі канібалізму. Так і не ацэненая дарэшты культурная рэвалюцыя пакінула глыбокі шнар у сьвядомасьці кітайцаў. Справа скончылася паказальным працэсам «банды чатырох», астатнія вінаватыя не пакараныя і адчуваюць жывую настальгію па часах, калі — як кажуць даўнія чырвоназорнікі — яны «былі генэраламі Мао».

*Liberation*

# Сьвет

**ІЗРАІЛЬ.** На парлямэнцкіх выбарах у Ізраілі з розьніцай меней за 1% перамагла партыя Лікуд на чале з Бэньямінам Натаніяху. Такім чынам, упершыню за шмат гадоў улада ў краіне пяройдзе ад левай Партыі Працы на чале з Шымонам Пэрэсам да правай партыі Лікуд. Для пасьпяховага супрацьдзеяньня левым у парлямэнце Натаніяху зьбіраецца ўвайсьці ў кааліцыю зь іншымі правымі ды артадаксальнымі рэлігійнымі партыямі. У іх ліку й партыя былых выхадцаў з СССР, якая атрымала 7 месцаў у парлямэнце.

У сувязі з вынікамі галасаваньня чакаецца рэзкая зьмена ў адносінах Ізраілю да палестынцаў ды арабскіх суседзяў. Натаніяху зьбіраецца спыніць працэс кампрамісаў з арабамі ды здачы заваяваных ізраільцянамі падчас шасьцідзённай вайны земляў, у прыватнасьці Галянскіх высотаў. Ён зьбіраецца таксама аднавіць засяленьне Заходняга берагу Іярдану. Натуральна, што цяпер ня можа быць і гутаркі пра здачу паловы Ерусаліму палестынцам, балазе цяперашні мэр ізраільскай сталіцы сам сябра Лікуду. Вынікі галасаваньня моцна засмуцілі Ясіра Арафата, які ўжо бачыў сябе прэзыдэнтам уласнай палестынскай дзяржавы. Незадаволены быў паразай свайго левага сябра Пэрэса й левы прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан, што бачыў сябе ў ролі міратворцы ды спадзяваўся, напэўна, на Нобэлеўскую прэмію міру.

**АЛЬБАНІЯ.** На парлямэнцкіх

Працяг на стар. 21

# Здарэньні

## Сварка

Перад тым, як прыняць зьмену, вартаўнік аднаго з магілёўскіх шпіталяў рабіў звычайны абыход будынка. Зайшоў ва ўсе памяшканьні, зазірнуў пад лесьвіцы. Убачыўшы вялізны поліэтыленавы мех, вартаўнік адкрыў яго і ледзь не пасівеў. У мяху ляжала тазавая частка чалавечага цела... Неўзабаве прыехала выкліканая ім міліцыя ды пачала расьсьледаваньне. Як высьветлілася, частка цела належала жанчыне. Прычым не з прэпаратарскай ці моргу шпіталю. Пачалі падазраваць выпадак людажэрства. Сьледзтва доўжылася ўсяго тры дні. Аказалася, што гэта звычайнае бытавое забойства па п'янцы.

У адной сям'і пасварыліся маці й дачка, якая ў якасьці апошняга аргумэнту схапіла нож ды нанесла старой некалькі ўдараў. Трохі працьверазеўшы, дачка, баючыся пакараньня, вырашыла пазбавіцца ад трупа. Нажом ды сякерай разрэзала цела на 17 частак ды паразносіла па розных месцах.

## «Ікар»

На пульце менскага першамайскага аддзелу пазаведамаснай аховы спрацавала сыгналізацыя. Сыгнал паступіў з адной прыватнай кватэры дырэктара камэрцыйнай арганізацыі. Міліцыянты хуценька прыбылі на месца ды, адчыніўшы дзьверы ключамі гаспадара, непрыкметна ўвайшлі ў кватэру. Там яны сутыкнуліся з двума рабаўнікамі, што старанна ператрэсвалі чужую маёмасьць. Падумаўшы, вядаць, што ён на Месяцы ці што ў яго вырасьлі крылы, адзін з злодзеяў выскачыў зь пятага паверху. Аднак зямная гравітацыя аказалася суровай рэальнасьцю. У выніку гора-дэсантнік пераламаў ногі ды косьці тазу й патрапіў у шпіталь. Ягоны хаўрусьнік быў затрыманы ды зьмешчаны ў сьледчы ізалятар.

## «Іхтыяндар»

Злодзеі ня толькі лётаюць, але й бегаюць ды плаваюць. Пасьля адсідкі выйшлі на волю два такія з Полацку і адразу ўзяліся за старое рамяство. За некалькі тыдняў яны пасьпелі абчысьціць ажно пяць кватэраў. 24 траўня злачынцы былі затрыманыя супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Віцебскай вобласьці. Іх даставілі для допыту ў аддзел міліцыі. Падлавіўшы момант, калі міліцыянт займаўся запаўненьнем пратаколу, адзін з злодзеяў выскачыў у адчыненае вакно. Прызямліўся ён удала, балазе быў другі паверх. Падхапіўся на ногі й кінуўся ўцякаць. Пакуль міліцыянты зьбеглі ўніз па лесьвіцы ды абагнулі свой будынак, спрытнюга быў ужо па-за межамі дасягальнасьці. Дабегшы да ракі, ён даў нырца ў Дзьвіну й паплыў. Праз 12 кілямэтраў заплыву «трыятляніст» адчуў сябе кепска. Лягерная пайка, цыгарэты, «чыфір» ды гарэлка зусім не паспрыялі яго спартовай форме. Таму ён выйшаў з ракі ды, ледзь трымаючыся на нагах, дацёгся да мясцовага мэдпункту ў адной зь вёсак. Там сілы канчаткова пакінулі яго, і міліцыі засталася толькі прыехаць і забраць «спартоўца».

Працяг на старонцы 24

№ 11/96
3 чэрвеня — 9 чэрвеня

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

# ІНФАРМАТАР
## НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы – штотыдзень 16 палосаў патрэбнае інфармацыі

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION



# КАЛЯНДАР ЗБОРУ ЗЁЛАК

| *Назва расьліны* | *Што зьбіраць* | *Пэрыяд збору* |
|---|---|---|
| Аер балотны | корань | верасень-кастрычнік |
| Альтэй лекавы | карані бакавыя | красавік-травень |
| Амяла белая | галінкі зь лісьцем | лістапад-студзень |
| Арабіна звычайная | плады | кастрычнік-сьнежань |
| Бабок трохлісьцевы | лісьце | травень-чэрвень |
| Багун балотны | маладое лісьце | чэрвень-верасень |
| Барвінак малы | трава | травень-чэрвень |
| Баркун | трава | чэрвень-жнівень |
| Брусьніцы | лісьце | сакавік-ліпень |
| Бяроза барадаўкавая, белая | пупышкі, лісьце | люты-сакавік-чэрвень-жнівень |
| Валошка | кветкі бакавыя | чэрвень-жнівень |
| Валяр'ян | карані | красавік-травень, жнівень-кастрычнік |
|Ваўчкі трохпадзельная | трава | чэрвень-жнівень |
| Вольха | шышкі | верасень-сьнежань |
| Вошы | трава | травень-жнівень |
| Гладун | трава | чэрвень-верасень |
| Глог | кветкі, плады | жнівень-кастрычнік |
| Дзеравянка | корань | красавік-травень |
| Дзераза | споры | ліпень-верасень |
| Дзьмухавец звычайны | карані | кастрычнік |
| Драсён перачны (вадзяны перац) | трава | чэрвень-жнівень |
| Драсён апачачуйны | трава | чэрвень-жнівень |
| Драсён птушыны (спарыш) | трава | чэрвень-верасень |
| Дуб звычайны | кара | красавік-чэрвень |
| Дымніца | трава | травень-ліпень |
| Жосьцер паслабляльны | плады | жнівень-верасень |
| Зуброўка духмяная й паўднёвая | трава | травень-чэрвень |
| Калакуша ломкая | кара | красавік-чэрвень |
| Каліна звычайная | кара | красавік-чэрвень |
| Канвалія (ландыш) | трава | травень-чэрвень |
| Каўтычнік скіпетрападобны | венчыкі кветак | ліпень-жнівень |
| Кмен звычайны | лісьце | ліпень-жнівень |
| Крапіва | лісьце | чэрвень-жнівень |
| Крываўнік | лісьце, трава, кветкі | травень-верасень |
| Кубышка жоўтая (жоўтая вадзяная лілея) | корань | жнівень |
| Кукуруза (волас) | рыльца | ліпень-верасень |
| Мацярдушка | трава | чэрвень-жнівень |
| Мучанік | лісьце | травень-чэрвень, верасень-кастрычнік |
| Падбел | кветкі, лісьце | верасень-кастрычнік |
| Палын горкі | трава | ліпень-жнівень |
| Піжма звычайная | суквецьце | чэрвень-верасень |
| Рамонак лекавы | суквецьце | травень-верасень |
| Сардэчнік | трава | чэрвень-верасень |
| Сінец трохкаляровы | трава | травень-жнівень |
| Сухацьвет | суквецьце | чэрвень-жнівень |
| Сухотнік лекавы | трава | чэрвень-ліпень |
| Сушаніца балотная | трава | ліпень-жнівень |
| Сьвятаяньнік | трава | чэрвень-ліпень |
| Трыпутнік вялікі | лісьце | травень-верасень |
| Фэнхель (кроп аптэчны) | плады | жнівень-верасень |
| Хвоя звычайная | пупышкі | сьнежань-люты |
| Цьвінтарэй | траваа | чэрвень-ліпень |
| Чарніцы | плады | ліпень-жнівень |
| Чыстацел вялікі | трава | травень-ліпень |
| Шыпшына | плады | жнівень-верасень |
| Ядловец | плады | верасень-кастрычнік |



На стар. 20

Калі людзі жывуць побач (як гэта адбываецца ў сямейным жыцьці), то яны непазьбежна губляюць узаемаразуменьне й вастрыню ўспрыняцьця іншага чалавека...

Адна з праблемаў сучаснага шлюбу ёсьць у тым, што ўсё надакучвае, у тым ліку й сэксуальныя зносіны...

Жыцьцё безь сям'і, без блізкага чалавека – занадта дарагая плата за поўную самастойнасьць...

Большасьць людзей у пэўнай ступені падманваецца ў сваіх чаканьнях...

Шлюб прытупляе творчыя магчымасьці чалавека...

Ня маюць рацыі тыя, хто лічыць, што менавіта ў сям'і чалавек найменш можа разьлічваць на павагу...

Адкажыце на гэтыя і другія пытаньні нашага тэсту...

**"ЦІ ЗАДАВОЛЕНЫ ВЫ СВАІМ ШЛЮБАМ?"**



## ПАРАДЫ ЧЫТАЧОЎ

**Вырабляем корку для слоіка акумулятарнай батарэі**

Калі згубіўся корак ад слоіка акумулятарнай батарэі, яго можа замяніць поліэтыленавы корак ад вялікай віннае пляшкі (з-пад шампанскага). Дастакова зрабіць у корку вэнтыляцыйную адтуліну (нагрэтым Г-падобна сагнутым цьвіком) дыямэтрам 2 мм. Вонкавая паверхня корку пры гэтым застаецца чыстай, бо газы выходзяць збоку.

**Аблягчэньне пуску рухавіка пры разладунакаваньні (разрадцы) акумулятарнай батарэі**

Калі даводзіцца пускаць рухавік з дапамогаю пускавой рукаяткі з-за зьмяншэньня ёмістасьці акумулятарнай батарэі, мэтазгодна для скарачэньня выдаткаў энэргіі выключыць на гэты час сыгнальныя лямпы й абмотку ўзбуджэньня генэратара.

З гэтаю мэтай на аўтамабіле "Запарожац" на шпульцы запальваньня быў усталяваны дзьвюхпазыцыйны пераключальнік (тумблер). Першая пара кантактаў далучаецца ў ланцуг, што шунтуе дадатковы рэзыстар шпулькі, другая — у ланцуг, які ідзе ад рэгулятара да абмоткі ўзбуджэньня генэратара.

Пры пуску рухавіка пераключальнік ставіцца ў першае становішча, а калі рухавік пачынае працаваць — у другое. Пры гэтым палягчаецца эксплюатацыя аўтамабіля ў зімовы час. Гэты спосаб варта выкарыстоўваць для аўтамабіляў, дзе ўжываецца дадатковы рэзыстар.

*А. Кісялевіч*, п. Мір

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусі
АБАНЭМЭНТ на газэту **63125**

**НАША НІВА**

Колькасьць камплектаў

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрэса)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАЎНАЯ КАРТКА**

на газэту **63125**

| ПВ | месца | Літар |
|---|---|---|

**НАША НІВА**

| Кошт | падпіскі ____ руб. | Колькасьць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрас. ____ руб. | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрэса)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

*Успаміны Пятра Грыгарэнкі – рэдкі дакумэнт, які раскрывае ўнутраны мэханізм вынішчэньня беларускага гарадзкога асяродзьдзя як апірышча нацыянальнае саматоеснасьці. Аўтар ня толькі паіменна называе тых, хто браў самы непасрэдны ўдзел у разбурэньні (у тым ліку й сябе самога), але яшчэ й тлумачыць матывацыі іх дзеяньняў («уладу раздражняла штодзённае публічнае маленьне»). Зусім нечакана гучыць дакумэнтальнае пацьверджаньне трагічнага выпадку ў Бабруйску: разам з царквою былі зьнішчаныя людзі. Напэўна размова тут вядзецца пра Пакроўскую царкву (колішні езуіцкі касьцёл), якая сапраўды была шчыльна аточаная старасьвецкімі камяніцамі. Тут, па сутнасьці, і было старое места Бабруйску, сфармаванае ў XVII ст. на высокім беразе Бярэзіны.*

*Сабор у Віцебску, пра які піша Грыгарэнка – гэта сабор Усьпеньня Прасьвятое Багародзіцы, які быў узьведзены ў XVIII ст. пры кляштары базыльянаў паводле праекту знанага італьянскага дойліда Язэпа Фантана (III). Аднак гісторыя царквы Ўсьпеньня сягае ў сівую даўніну: першая згадка пра яе датуецца 1406 годам. З XV ст. гэтая царква становіцца саборнаю, тут захоўваецца архіў места, у тым ліку прывілей на правы і вольнасьці, нададзены Віцебску каралём Аляксандрам I. Пазьней менавіта тут была катэдра Сьв. Язафата Кунцэвіча. Будаўніцтва мураванага сабору пачалося ў 1743 годзе, а было скончана толькі ў 1777! З 18 ліпеня 1799 году на загад расейскага цара сабор адыйшоў да ведамства праваслаўнага веравызнаньня. Пазьней, у канцы 40-х гадоў XIX ст. сабор быў істотна рэканструяваны і набыў клясыцыстычны ўбор. Семянтоўскі пісаў: «... Мы ўвесь час любаваліся і яго лёгкімі вежамі, і велічным парталам, і яго сувымерным купалам, і ўсім гэтым разам». Расейскі обэр-пракурор Сьвятога Сыноду й міністар асьветы Талстой, аглядаючы Віцебск у 1872, быў так моцна ўражаны гэтым будынкам, што катэгарычна заўважыў епархіяльнаму архітэктару: «Навучыцеся будаваць так трывала, легка й прыгожа, як пабудаваная гэтая бажніца!»*

*Не зусім ясна, пра які будынак каля сабору непакоіўся тав. Сьмірноў. Вакол сабору былі толькі будынкі колішняга базыльянскага кляштару, шпіталя, школы, прыстасаваныя пад жыльлё. Асабісты матыў нейкага члена з ЦК? Тэма для апавяданьня. Будынак, бадай, не ацалеў.*

*Бажніца ў Менску, пра якую згадвае Грыгарэнка, – хутчэй за ўсё, царква для сьляпых, што існавала ў раёне вул. Бэрсана, з боку двара Дома ўраду. Паводле сьведчаньняў людзей, якія памятаюць гэты будынак, бажніца сапраўды была адмыслова прыстасаваная для слабавідушчых ды сьляпых людзей. У ёй быў пандус пры ўваходзе, парэнчы й стойкі, дзякуючы якім у царкве можна было арыентавацца ўсьляпую. Гэтая маленькая царкоўка была ўзьведзена напачатку стагодзьдзя. Цікавы нюанс вынікае з тэксту Грыгарэнкі: царкву зьнесьлі пасьля пабудовы Дому ўраду. Значыць, Лянгбард прадугледзеў ёй месца?*

*Царква, што была зьнішчана ў Смаленску, можа быць царквою Пятра і Паўла за Дняпром, адна са старэйшых сьвятыняў краю, закладзеная яшчэ ў XII ст. Праўда, пра гэты аб'ект можна меркаваць толькі ўскосна, паводле даты: 1934 год. Пазьней Смаленск амаль не кранaлі, як зрэшты і іншыя гарады ў Расеі...*

*Пакаяньне Грыгарэнкі – гэта кароткі аповед пра тое, хто, як і дзеля чаго пачынаў у Беларусі тэрор супраць цывілізацыі.*

**Сяргей Харэўскі**

*З кнігі «Ўспамінаў» Пятра Грыгарэнкі*

# «... я ператвараў іх у цэглу»

... Гаспадарчыя працы, якія добра спалучаліся з спэцыяльнай падрыхтоўкай, не абмяжоўваліся мастамі й дарогамі. Было шмат і іншых. Найбольш прыбытковыя былі падрыўныя работы: грошы за іх ракою плылі ў батальённую касу. Аднак мне зусім не хацелася б хваліцца гэтымі работамі. Я хацеў бы пра іх прамаўчаць. Тым больш, што зрабіць гэта лёгка. Маю ж я права сам выбіраць паміж рознымі падзеямі, што складаюць маё жыцьцё, тыя, якія хачу апісаць? Але я адкіну ўсякія ваганьні і напішу пра свой сьвядомы ўдзел у найвялікшым барбарстве нашага стагодзьдзя: у зьнішчэньні шэдэўраў царкоўнай архітэктуры ў Расеі і Беларусі.

Першае заданьне на падрыў царквы мы атрымалі ўвосені 1934-га году. Гутарка ішла пра сабор у горадзе Віцебску. Цудоўны сабор сваімі пяцьцю цыбулямі дамінаваў над правым берагам Заходняй Дзьвіны. Людзі на суднах, плывучы ўверх або ўніз па рэчцы, заўважалі яго здалёк і доўга дзівіліся, пакуль ён не зьнікаў за даляглядам. Але яны ня толькі дзівіліся: яны маліліся, хрысьціліся, многія ставалі на калені. І гэта, мабыць, вырашыла долю сабору. Уладу раздражняла такое штодзённае публічнае маленьне, і наш батальён атрымаў загад начальніка інжынэраў Беларускай вайсковай акругі. Прыводжу яго з памяці:

"ЦК КП(б) Беларусі прасіў у камандаваньня ваеннай акругі




*Віцебскі Ўсьпенскі Сабор.*

прызначыць аддзел сапэраў-падрыўнікоў і ўзарваць сабор у Віцебску на беразе Заходняй Дзьвіны. ЦК КП(б)Б адначасова просіць, каб трохпавярховы будынак каля царквы быў як мага менш пашкоджаны. Камандзір арміі акругі даручае выкананьне гэтага заданьня батальёну сапэраў 4-га стралковага корпусу і ўскладае адказнасьць за вынікі і бясьпеку ўзарваньня асабіста на камандзіра батальёну таварыша Сьмірнова П.І.

Аплату ўзрыўных работаў бярэ на сябе Віцебскі гарсавет адпаведна з каштарысам батальёну, згодна з чым падпішаце дамову зь Віцебскім гарсаветам. Кантроль над выкананьнем гэтага загаду ўскладаю на галоўнага інжынэра корпусу тав. Стрыбука".

Павел Іванавіч запрасіў мяне. Даў прачытаць загад, потым сказаў: «Дык вось, фартыфікатар, гэта ўжо чыста твая работа. Я ж у акадэміі на падрыўныя работы толькі здаля глядзеў. На камандным факультэце нас тэхніцы падрыўных работ не навучалі. А вы колькі выбуховых матэрыялаў патрацілі! Так што давядзецца табе за гэта брацца і адказваць. Людзей сабе на дапамогу выбірай якіх хочаш». Потым ён памаўчаў, задумаўся і дадаў: «Мяне больш за ўсё турбуе той будынак. Пішуць, каб найменей яго пашкодзіць. А па-мойму, ён узьляціць разам з царквою. Бо там усяго 12 мэтраў паміж будынкам і царквою».

Вось жа ўся работа была ўскладзеная на мяне. І перамовы зь Віцебскім гарсаветам, і арганізацыя выбуху, і сам выбух. Ня памятаю, колькі я «загнуў» за яго, а толькі ведаю, што гэта было фантастычна дорага, як на мой погляд, але старшыня гарсавету (мне гэта адразу стала зразумела) ня змог схаваць свае радасьці, і я пашкадаваў, што не запрасіў шмат больш.

Перад самым заканчэньнем акадэміі, калі ўжо не было рэгулярных заняткаў, а йшлі дыплёмныя праекты, катэдра падрыўных работ давала лекцыю «Падрыў будынкаў мэтадам пустотных зарадаў». З усёй лекцыі я запомніў толькі адну формулу разьліку глыбіні й густаты шпуроў, у якія закладаліся падрыўныя (піраксэлінавыя) шашкі й «пустоты» (макеты падрыўных шашак — з дрэва). Закладаліся яны так: шашка, «пустата» (адна або дзьве ў адпаведнасьці з разьлікамі), зноў шашка або дзьве. Лектар запэўніваў, што калі добра раскласьці шпуры і зрабіць як сьлед забіўку, то будынак не ўзьляціць у паветра, а асядзе й рассыплецца. Трэба было б гэта на нечым спраўдзіць, але часу не было, і я пайшоў проста ў царкву, каб прыкінуць на месцы, як гэта можна зрабіць. Высьветлілася, што царква была цалкам абсталяваная, як дзейная: абразы, аўтар, сьвечнікі — усё на месцы.

Ува мне ўсё перавярнулася. Нічога тут рабіць я ня мог. Я пайшоў да старшыні гарсавету і рэзка заявіў яму: «Пакуль адсюль ня вывезуць усе абразы ды іншыя царкоўныя рэчы, я нічога рабіць ня буду. Але майце на ўвазе: ня проста вывезьці, а запрасіць сьвятара, каб ён гэта зрабіў, як належыць па-праваслаўнаму. Інакш я за гэтую працу не вазьмуся. Я не хачу, каб насельніцтва нас абвінаваціла ў блюзьнерстве». У Віцебску тады, акрамя сабору, было яшчэ тры ці чатыры царквы, і сьвятары тых цэркваў з дапамогаю вернікаў арганізавалі вынас з сабору сьвятыняў і царкоўных рэчаў. Пазьней мне, праўда, закідалі, што «Грыгарэнка арганізаваў царкоўную працэсію ў Віцебску». За гэта звычайна магло добра ўляцець, але мне абышлося. Хутка пасьля гэтага выбуху іншы сапэрны батальён узарваў царкву ў Бабруйску. Выбух быў зроблены канцэнтраваным зарадам, і разам з царквою зруйнавалі больш за дзясятак будынкаў. Тут ужо былі й чалавечыя ахвяры. Убарэвіч (галоўны камандзір Беларускай ваеннай акругі), разглядаючы гэты выпадак на пашыранай нарадзе, прывёў у прыклад мой выбух, назваўшы маё прозьвішча. Пасьля гэтага караць мяне не выпадала.

Падрыхтоўка выбуху заняла роўна палову месяца. Але вынік перавысіў усе спадзяваньні. Выбуху ў звычайным разуменьні слова ўвогуле не было. Быў толькі глыбокі гул і грукат цэглы, што падала зьверху. Будынак, пра які турбаваліся, ня толькі ня быў пашкоджаны, у ім ня вылецела й ня трэснула ніводная шыба, нават у тых вокнах, што выходзілі на сабор.

Храм проста з працяглым стогнам асеў і ператварыўся ў груду цэглы. Менавіта цэглы, а не абломкаў сьцяны. Выбух адбыўся на досьвітку. І вось я стаю над велічэзнай грудаю цэглы і, шчыра прызнаюся, любуюся сваёй работай, тым, як прыгожа ўзарвана: пад'яжджай машынай і проста з гэтага груду накідай у яе цэглу. Падыходзілі людзі і таксама выказвалі сваё зьдзіўленьне й захапленьне «чысьцінёю» работы. Асабліва зьдзіўляліся таму, што з суседнім будынкам нічога ня сталася, і што царкву ператварылі не ў руіны, а ў прыдатны будаўнічы матэрыял —цэглу. І нікому, у тым ліку і мне, і на думку не прыйшло, што на гэтым месцы быў шэдэўр архітэктуры і месца духоўнага яднаньня людзей з Богам. Забыўшы пра гэта, мы любаваліся купай цэглы.

Віцебскі гарсавет расчуліўся й выдаў прэміі (звыш дамоўленай сумы) мне і падрыўнікам «за высокую якасьць выбуху, што забясьпечыла зьберажэньне жылога будынку». Так я атрымаў маю частку, мае трыццаць срэбнікаў.

Слава пра наш выбух хутка пашырылася ва ўсёй Беларусі. І ЦК КП(б)Б папрасіў камандзіра БВО прыслаць тых падрыўнікоў зь Віцебску да Менску. Тут, як высьветлілася, побач зь нядаўна збудаваным дзевяціпавярховым урадавым будынкам захавалася, амаль шчыльна прылягаючы да яго, маленькая царква. Навучаны віцебскім досьведам, я запрасіў за яе ўтрая болей і атрымаў бяз торгу. Царкву мы ўзарвалі, не пашкодзіўшы ўрадавага будынку.



Пасьля гэтага пад маім кіраўніцтвам была ўзарваная царква ў Смаленску. На гэтым я спыніўся, заявіўшы, што брыгада, якую я падрыхтаваў, цудоўна справіцца безь мяне. Насамрэч жа прычына была ў маім унутраным стане. Яшчэ рыхтуючы выбух царквы ў Віцебску, я адчуваў унутраны пратэст. І хоць я й любаваўся грудам цэглы, што зьявіўся на месцы сабору, мая праца не давала мне сапраўднага задавальненьня. Менскі выбух я рыхтаваў ужо безь ніякага зацікаўленьня. А ў Смаленску мне было проста гідка ад таго, што я рабіў.

Выконваць такую працу надалей мне было б выгадна: бескантрольнае вольнае жыцьцё, шмат грошай, зашмат вольнага часу — чым не жыцьцё! Але для мяне гэта было не жыцьцё. Перад маімі вачыма стаялі зруйнаваныя цэрквы, і я пачаў хвараві́та прыглядацца да цэркваў, яшчэ не зруйнаваных. Я пабачыў, якая гэта разнастайнасьць архітэктуры, колькі людзкой душы, колькі выдумкі ўкладзена ў іх. І як кожная зь іх дапасоўваецца да навакольнага краявіду! Якая гармонія! Я пачаў цікавіцца ўсім, што датычыла цэркваў, і ад старых людзей даведаўся, што пабудова царквы не была простай справай. Найперш, адзін або некалькі чалавек выбіралі месца. Казалі, што гэта было рэдкае ўменьне, і такія спэцыялісты лічыліся на пальцах рукі. Пасьля рабілі пляны і тапаграфічны малюнак, дапасоўваючы ўсё да мясцовасьці. Потым падбіраўся будаўнічы матэрыял і г.д. аж да завяршэньня званіцы і мастацкага аздабленьня сярэдзіны. Людзкая праца, розум, нэрвы ўкладаліся ў гэтыя цудоўныя творы, а я ператвараў іх у цэглу. І я вырашыў: буду толькі будаваць. Няхай сабе толькі просьценькія масточкі, а зьнішчаць... Не, я не паўстаў супраць нішчэньня. Я падумаў: «А нішчыць — няхай нішчаць іншыя».

Гэтым і вызначаюцца мае два віцебскія гады: я зьнішчыў тры гістарычныя помнікі архітэктуры, тры царквы — тры сьвятыні нашых працоўных, і пабудаваў колькі дзясяткаў просьценькіх драўляных мастоў.

З францускай пераклаў
А.Арэшка.

*Пераклад зроблены з выданьня: Piotr Grigorenko. Memoires. –Paris, 1980; пераклад узгоднены з выданьнем: Петро Григоренко. Спогади. – Детройт, 1984.*

**Пятро Грыгарэнка нарадзіўся 16 кастрычніка 1907 г. у вёсцы Барысаўка ў Запарожжы. Украінец. Уступіў у камуністычную партыю ў 1927 г. Афіцэр Чырвонай арміі, пасьля генэрал-маёр. Прафэсар ваеннай Акадэміі ў Маскве. Сьведка сталінскіх чыстак 1936–37 г. Ваяваў на Далёкім Усходзе, пасьля на Ўкраіне. Герой II-й сусьветнай вайны. Быў прыбліжаны да вялікіх таго часу: Брэжнева, Жукава, Маліноўскага, Панамарова і іншых. Будучы крытычна настроеным да савецкай рэальнасьці, паступова прыблізіўся да актыўных дысыдэнтаў Букоўскага, Кастэрына, Гінзбурга, Сахарава, Салжаніцына, разам зь якімі і змагаўся супраць бяспраўя ў СССР. Аб'яўлены вар'ятам, разжалаваны з рангу генэрал-маёра. У 1964 г. пасаджаны ў псыхіятрычны «шпіталь». У 1969 г. яго зноў высылаюць у «спэцыяльную» вар'ятню на 5 гадоў. Вялікі абаронца крымскіх татараў. У 1977 г. наведаў свайго сына ў ЗША, дзе й застаўся. Савецкі ўрад пазбавіў яго савецкага грамадзянства. Неўзабаве П.Грыгарэнка памёр.**

АПАВЯДАНЬНЕ

*Алесь Аркуш*

# Ордэн Маўклівага Ветаха

За вялікім прастакутным сталом сядзелі сябры Рады Ордэна. Магістар у шырокім швэдры грубай вязкі, джынсах і белым плашчы з чырвонай Пагоняй на плячы ўзначальваў збор. Ягоныя доўгія русявыя валасы спадалі на плечы й здаваліся на тле плашча амаль чорнымі. Суворы выраз твару магістра пасаваў да ўрачыстай дзеі. На двары быў травеньскі вечар. Надвор'е нечакана сапсавалася. Пахаладала. Неба зацягнула шароцьцем і ўзмацніўся вецер. Рана пачало зьмяркацца. У пакоі аднак не запалілі сьвятла, і белая пляма плашча магістра, як магнэз, прыцягвала зрок прысутных.

— Наста, запалі сьвечку, — магістар паспрабаваў зьвярнуцца да дзяўчыны з просьбай, але атрымаўся загад.

Дзяўчына выйшла з пакою й хутка вярнулася зь вялікім падсьвечнікам на тры рогі. Яна паставіла яго на сярэдзіну роўнядзі чыстага стала й газьнічкаю падпаліла кнаты. Гэтага хапіла толькі на тое, каб асьвятліць твары радцаў. Сярод хлопцаў сядзелі й некалькі дзяўчат. Яны мелі кароткі фрызуры, таму ў прыцемку іхняя прысутнасьць не азначалася.

— Пачынаем капітулу Рады Ордэна Маўклівага Ветаха, — на гэты раз голас магістра быў яшчэ больш суворы.

Усе ўсталі й тры разы хорам паўтарылі «З намі сьвяты дух!» Дзявочыя галасы відавочна дысанавалі з грубымі мужчынскімі. Агеньчыкі сьвечак захісталіся й па тварах забегалі сполахі. За сьпінаю магістра вісела харугва Ордэна з выяваю чырвонага быка, які на сваім ілбе трымаў перакулены вялікі чырвоны ветах. Калі магістар паўтараў разам з усімі «З намі сьвяты дух!», правай рукою ён трымаўся за край харугвы.

Празь дзьве-тры хвіліны ўсе зноў селі. Настала цішыня. Полымя сьвечак супакоілася, і на маладых тварах, як раней, легла роўнае бляклае, амаль месяцовае сьвятло.

— Сябры, усе вы ведаеце, зь якой нагоды мы сёньня сабраліся, — пасьля гэтых словаў магістар памаўчаў некалькі хвілінаў. —Сёньня мы прымем канчатковае рашэньне. Маўклівы Ветах павінен пачуць наш голас.

— Сябры, — сказаў хлопец у джынсавай куртцы, што сядзеў праваруч ад магістра. — Цяжкі дзень прыйшоў у наш край. Бацькаўшчына ў аблозе. Мы ня маем выбару. Мы можам выбраць толькі здраду. Д'ябал спакушае нас. Маўклівы Ветах выпрабоўвае. Ордэн павінен сказаць «рушаньне».

— Згода, — падтрымалі прамоўцу адразу некалькі галасоў.

— Сябры, — узяў слова падданы Маўклівага Ветаха. — Наш Ордэн ніколі ня ладзіў Вялікай Выправы. Да таго ж сілы відавочна няроўныя. Кожны павінен зразумець, што мы сёньня выбіраем...

На вуліцы гэтым часам вецер мацнеў і мацнеў. Ён патрабаваў ад дрэваў трапяткой пакоры. Кожная галінка мусіла схіліцца перад ім. Перад ягонай моцаю. Перад ягонай уладаю. Гэтая рашучая дэманстрацыя сілы суправаджалася псыхадэлічным воем, стогнам і сьвістам. Усё, што ня мела каранёў, уздымалася ў паветра й неслася ў нейкую бездань, у нікуды, у незваротнасьць. А вецер проста шалеў ад навакольнай пакоры і бездапаможнасьці. Ён агідна рагатаў і кідаў сьмецьце у вокны дамоў. Пачуўся гук разьбітага шкла — хтосьці, напэўна, пакінуў вакно расчыненым, — і вецер, адчуўшы слабізну шыбаў, з усёй моцы ўдарыў па іх, нахабна ўварваўся ў кватэру, робячы ў пакоях вэрхал і сеючы страх у сэрцах яе жыхароў, і гэтак жа нечакана выскокваў вонкі. Такія гульні прыносілі яму найвялікшае задавальненьне. Ён любіў, калі ягоныя ўчынкі выклікалі страх. Толькі страх прыводзіць да татальнай пакоры. Бязь межаў. Без развагаў.

Вось ня вытрымала старая бяроза ў двары чатырохпавярховае забудовы. З адчайным, страшным трэскам яна абрынулася на дзіцячую пляцоўку для гульняў. Гэты трэск нібы застыў у часе. Яго было чутно яшчэ колькі хвілінаў, бо ён некалькі разоў запар дубляваўся ва ўзбуджаным мозгу. Зь мёртвай бярозы адарвалася лістота і дзіўнай зялёнай хмараю, быццам душа дрэва, закружляла ў двары. Бацькі забаранілі дзецям падыходзіць да вокнаў. Некаторыя месьцічы выключылі свае тэлевізары й моўчкі сядзелі па кутох маленькіх кватэраў. І раптам грымнуў магутны выбух. Такой моцы, што скаланулася ўсё наўкола. Наступнае імгненьне горад сьціснула цішыня. Быццам усе разам набралі паветра й спынілі дыханьне. А яшчэ праз імгненьне неба пачалі краіць маланкі. Безь перапынку. Разгалістыя, зыркія, працяглыя. Пайшоў буйны дождж.

Магістар устаў з-за стала і зноў дакрануўся да харугвы Ордэна. За вакном шугалі маланкі і ў пакоі стала сьветла, як днём. Твар магістра зрабіўся каменны. Але кроплі поту на лобе сьведчылі, што магістар хвалюецца. Бык на харугве ад бесьперапынных бліскавіцаў стаў бліскуча чырвоны і, здавалася, павялічыўся ў некалькі разоў. Да магістра падыйшла Наста. На мядзяным сподзе, які яна трымала ў руках, ляжала мэталёвая, збройная пальчатка. Магістар вольнай левай рукой узяў пальчатку й са словамі «рушаньне» кінуў яе на сярэдзіну стала. Слова гэтае, узмоцненае дзясяткам галасоў, вярнулася да яго магутным рэхам.

Праз паўгадзіны радцы выйшлі на двор. Магістар трымаў у руках вялікі паветраны балён, да якога прымацоўвалася стужка зь белай тканіны. Дождж амаль што скончыўся. Дыхалася вольна й глыбока.

— Зараз мы замацуем свае словы, — сказаў магістар. —Маўклівы Ветах павінен ведаць наша рашэньне.

З надрэзанага пальца кожны пакінуў на белай стужцы крывавую рысу. Магістар зрабіў сваю першы.

Балён імкліва пачаў набіраць вышыню. І літаральна праз колькі хвілінаў на небе зьявіўся месяц.

*Травень, 1996*
*Навапалацк*

*Адам Глёбус*

# Каралеўства Буды

ТАЙЛЯНДЗКІЯ ПАДАРОЖНЫЯ СЬПІСЫ

*Працяг. Пачатак ў №10*

## Чытаньне...

Нават асалода чытаньня старажытнай прозы можа ператварыцца ў пакуту, калі ты сядзіш у самалёце, а навокал паляць цыгарэтку за цыгарэткай.

## Памаранчавае...

Сухі лісток магноліі, які ў першы дзень новага году падае ў блакітны басэйн, мусібыць бурштынава-памаранчавы.

Стары беларускі клён у кастрычніку ў маіх успамінах чырвона-памаранчавы.

Языкі драконаў і языкі полымя ва ўяўленьні маюць дрогкую, зыркую, памаранчавую сутнасьць, таму з ўсіх істотаў найбольш памаранчавая — салямандра.

Ашыйнік у пасаджанага на ланцуг сланяці на кракадзілавай фэрме быў брудна-памаранчавы. Сланя выклікала спачуваньне. А пантэра нават за кратамі не выглядала на злоўленую жывёлу.

Калі кажаш слова «памаранчавы», дык сам сабою ўзьнікае сок, бо найлепшы сок набліжаецца да жывога празрыста-памаранчавага колеру.

Поліўка да белага курынага мяса найсмачнейшая, калі ўтрымвае каліва перцу й сочыўна-памаранчавы колер.

Цэтлік на дарагім гатунку віскі мусіць мець хоць бы некалькі тоненькіх памаранчавых рысачак.

У большасьці піўбараў Бангкоку й Патаі сталы расфарбаваныя ў крывыя лімонна-памаранчавыя колы і гэта надае ап'янелым наведнікам дадатковае весялосьці.

Баскетбольны мяч можа быць якіх заўгодна памаранчавых адценьняў, але найлепей, калі ён шурпата-памаранчавы й аздоблены танюткімі чорнымі паскамі.

Поўня, намаляваная на лякавай скарбонцы, мусібыць памаранчавая.

А вось дзе недарэчы памаранчавы колер — дык гэта ў дзяржаўнай сымболіцы, і нават шчырыя патрыёты зь неспрактыкаваным вокам замяняюць яго ці то на чырвоны, ці то на жоўты.

Безрукаўкі й шапкі дарожных рабочых відаць здалёк, бо яны маюць памаранчавую афарбоўку.

Вопратка будысцкага манаха шаўкавіста-памаранчавая. Таму засьведчу: у Каралеўстве Тайлянд памаранчавыя манахі. Гледзячы на іх, разумееш, што жаданьне цывільнага чалавека стаць будысцкім манахам большае, чым жаданьне будысцкага манаха заставацца манахам.

## Чароўнае...

Гэта калі праўда перастае быць праўдаю, а робіцца звышрэальнасьцю. У літаратуры такое дасягаецца дзякуючы сьцісканьню часу, за кошт вялікіх пропускаў і скачкоў.

## Надакучлівае...

Бесьперапыннае перапытваньне пра адно й тое ж ня столькі абурае, колькі надакучвае.

Надакучвае паэт, які пры сустрэчах чытае ўголас уласная вершы. Нарэшце разьвітаесься, зьбіраесься сысьці, а ён хапае за рукаво і, зьбіваючыся, гучна выкрыквае словы «самага апошняга, найлепшага верша».

Бразганьне дзьвярэй можа вывесьці з раўнавагі найспакайнейшага зь людзей. Усе цудоўна ведаюць, як трэба зачыняць дзьверы, і ўсё адно пускаюць іх так, нібыта ставяць апошнюю кропку ў жыцьці. Але яшчэ больш надакучваюць дзьверы, пакінутыя незачыненымі.

Часам агортвае роспач і надакучвае ўласнае жыцьцё. Не застаецца нічога іншага як заснуць.

Наагул, жыцьцё — вельмі ўтомнае падарожжа.

У кожным падарожжы надакучваюць незаплянаваныя прыпынкі. У Бангкоку аўтобусы й аўтамабілі ўвесь час трапляюць ў заторы. Даводзіцца стаяць ледзь не гадзінамі, але ў гэты час якраз можна тое-сёе занатаваць у кішэнны сшытак.



## Трывожнае...

Чырвонае сьвятло адназначна ўстрывожвае.

Цяжкі ўздых жонкі, калі яна, сустрэўшы цябе ў передпакоі, ідзе разаграваць вячэру. Яна нічога не сказала, а на душу лёг цень трывогі.

Прадчуваньне далёкай дарогі забірае спакой. Яшчэ ня вырашыў ехаць-ня-ехаць, а на сэрцы трывожна, золка.

*Далей будзе.*

3 чэрвеня 1996 № 12(50)

# Бэстсэлеры Беларусі

*(І квартал 1996 г.)*

*на падставе зьвестак найбуйнейшых менскіх кнігарняў. Улічваліся толькі кнігі беларускіх выдавецтваў і колькасьць прададзеных асобнікаў*

## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

**1. Беларуская літаратура: проза 20-х гадоў: Хрэстаматыя / Склад. Д.Бугаёў і інш. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1996. 7000 ас.**

**2. Геніюш Ларыса. Ад родных ніў. Вершы. — Менск: ТАА «Альгерд», 1995 (Факсыміле з праскага выданьня 1942 г.). 3000 ас.**

**4. Арлоў Уладзімер. Фаўна сноў: Вершы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1995. 1500 ас.**

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**1. Бутрамееў Уладзімер. Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі. — Менск: БелЭн, 1995. 10.000 ас.**

**2. Крышталёвы калодзеж: казкі народаў Эўропы: Для дашк. і малодш. шк. узросту. / Пер. на беларускую мову В.Гардзей; мастак В.Тарасаў. — Менск: Юнацтва, 1996. — (Б-ка замежнай дзіцячай літаратуры). 6000 ас.**

Гісторыя не адпускае беларускую кнігу ані на крок. Усё, што купляецца й чытаецца сёньня — рэтра. Нават кніжка зусім сучасных вершаў зусім сучаснага пісьменьніка Арлова — там, бо толькі адтуль бярэцца жаданьне што-небудзь пісаць і ўвогуле на гэтай зямлі жыць. Ніякай сучаснасьці — ані прозы, ані вершаў, якія можна было б назваць плёнам гэтага дня. Сама беларуская нацыянальная ідэя — усё яшчэ рэтра.

З таго часу, як у Беларусі пачаліся СВАЕ ПАДЗЕІ, чыньнік нацыянальнае духоўнасьці стаў пакідаць літаратуру і з кніжнай старонкі перамясьціўся на вуліцу, у жыцьцё. Адпаведна і жыцьцё стала ўсё больш нагадваць тэкст — у ім зьявіліся больш-менш выразныя і ўстойлівыя жанры, стылі, пэрсанажы і нават героі. Раней, у савецкім часе, нічога такога не было.

Паўза жывое беларускае літаратуры ўтварылася за кошт узьнікненьня жывога беларускага жыцьця. І цяпер трэба толькі дачакацца стабілізацыі таталітарнага рэжыму ў краіне, калі заўсёды згодная з рэжымам беларуская інтэлігенцыя зноў засядзе за пісьмовыя сталы.

Крыт.

## ЛІТАРАТУРА ФАКТУ

**1. Беларусь: Энцыкляпэдычны даведнік / Рэд. Б.Сачанка —Менск: БелЭн, 1995. 5000 ас.**

**2. Лазука Б.А. Гісторыя мастацтваў. — Менск: Беларусь, 1996. 15.000 ас.**

**3. Рябцевич В.Н. Нумизматика Беларуси. — Менск: Полымя, 1995. 5000 ас.**

**4. Сміт Энтані. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. — Менск: Беларускі Фонд Сораса — Эўрафорум, 1995. 5000 ас.**

**5. Кішык Ю.Н. Панарама старога Віцебска. — Менск: Полымя, 1995. 1000 ас.**

Кніжныя бэстсэлеры І кварталу 1996 г. яднае тое, што ўсе яны — вельмі значныя ў сваёй прафэсійнай сфэры зьявы. Але бясспрэчныя лідары — унівэрсальныя выданьні.

Кнігагандлёвы лёс Энцыкляпэдычнага даведніка «Беларусь» лёгка можна было прадказаць. Тым больш, што выдавецтва наладзіла ў сваім будынку продаж уласнай прадукцыі без гандлёвых нацэнак. Рэпрэзантатыўнасьць — вось ключ да посьпеху аднатамовіка «Беларусь».

«Гісторыя мастацтваў» недзе набліжаецца да ўнівэрсальных выданьняў, таму што зьяўляецца скразным курсам сусьветнага мастацтва да канца XVIII ст. Беларускае мастацтва паказанае як частка сусьветнае культурнае спадчыны. Пры ўсёй апраўданай крытыцы працы Барыса Лазукі («НН» 11'1996) назаўжды застанецца зафіксаваным той факт, што гэтая кніга — першая беларуская гісторыя сусьветнага мастацтва. Яўны выйгрыш выданьня — амаль максымальна магчымая якасьць сёньняшняй беларускай паліграфіі.

«Нумизматика Беларуси» — гэта значна пашыранае (у тры разы) выданьне старога бэстсэлеру яшчэ 70-х гадоў «О чём рассказывают монеты». Структура кнігаў амаль аднолькавая, але ў новае выданьне Валянцін Рабцэвіч дадаў свайго ўлюблёнага матэрыялу — прыкладаў з гісторыі культуры і гісторыі мастацтва. Пасьля таго, як у кнігу ўвайшоў сучасны матэрыял, у тым ліку й банкноты Беларусі, «Нумизматика Беларуси» ў пэўным сэнсе пераўтварылася ў энцыкляпэдыю гісторыі грашовага абарачэньня Беларусі. Кошт выданьня стрымваў ягонае распаўсюджаньне, але яно ўсё адно патрапіла ў бэстсэлеры.

Энтані Сьміт набліжаўся да посьпеху паступова. Менская кнігарня «Цэнтральная» адмовілася браць гэтую кніжку на рэалізацыю — з-за назвы. «Нацыялізм у дваццатым стагодзьдзі» хацела сканфіскаваць КГБ прыператрусе ў «Нашай Ніве». Глыбінная прычына — боязь пабачыць сацыялягічную зьяву, а нават ня простая лянота зазірнуць пад вокладку кніжкі. Сёньня ў сьвеце гэтая кніжка зрабілася сучаснаю клясыкаю, на яе нават мала спасылаюцца — бо вывучаецца ва ўнівэрсытэтах. Прыклад кніжкі — ўсё большае ўваходжаньне новых суб'ектаў у культурны кантэкст краіны. Дасьледаваньне Энтані Сьміта ў рамках праграмы Фонду Сораса «Адкрытае грамадзтва» выдаў «Эўрофорум».

Досыць даўна не выходзілі цікавыя кніжкі пра архітэктуру. Таму наклад «Панарамы старога Віцебска» амаль увесь распрададзены. Кніга, апроч таго, што дае фактуру па помніках, уздымае праблему маральнага аспэкту дойлідзтва — паважных адносінаў да каштоўнасьцяў, створаных папярэднікамі. Выхад працы Юрыя Кішыка яшчэ раз акцэнтуе асобнае месца Віцебску ў беларускай сытуацыі.

Падсумуем — на посьпех могуць спадзявацца тыя выдавецтвы, якія робяць нешта ўпершыню, альбо друкуюць вельмі прафэсійна зробленыя выданьні. Агульная рыса бэстсэлераў — някепская паліграфія.

Алег Дзярновіч

# Страчаная спадчына

**Конкурс**



Тое, што на свае вочы бачылі нашыя дзяды, мы не пабачым ніколі. Не пабачым спрадвечных цёмных пушчаў, дзе гойсалі даніэлі ды блукалі мядзьведзі. Не пабачым сагрэтых пяшчотаю старасьвецкіх паркаў, у цёплай засені якіх гучалі таемныя прызнаньні ды нараджаліся вершы. Не пабачым дагледжаных стагодзьдзямі сядзібы, парадак і веліч якіх, адыйшлі ў нябыт разам з памяцьцю пра іх гаспадароў. Але, як аскепкі каштоўнага люстра, да нас дайшлі здымкі, малюнкі, красьлюнкі, у адбітку якіх — наш край і ягоныя здабыткі, якіх не пашкадаваў час. Не пашчасьціла і гэтай спадчыне: у віры разбурэньня й зьдзічэньня загінула большая частка неацэнных малюнкаў Струкава, здымкаў Булгака ды яшчэ шмат, шмат плёну руплівае працы тых, хто марыў абесьсьмяроціць і ўславіць нашую культуру. Тое, што засталося нам — гэта тая невялікая частка, якая адчайна сьведчыць пра веліч нашае цывілізацыі, якую мы не пабачым у яве, але здолеем, мусім АДЧУЦЬ.

Да 90-ае гадавіны «Нашае Нівы» мы распачынаем сэрыю конкурсаў, першы зь якіх прысьвечаны зьніклай Беларусі, той Беларусі, у якой жылі, тварылі й марылі браты Луцкевічы, Уласаў, Багдановіч, Купала, Аляхновіч, Гарун...

Гэтым разам мы прапануем вашае ўвазе нізку выбітных помнікаў дойлідзтва, якімі ў свой час ганарыўся наш край, і якія былі добра вядомыя за яго межамі, але былі зьнішчаныя падчас камуністычнага панаваньня. Гэтых шэдэўраў няма. Але ёсьць мы, якія павінны несьці памяць пра іх, ведаць, ШТО мы страцілі.

Вам трэба назваць пяць аб'ектаў запар (прасцей за ўсё — адным лістом пасьля апублікаваньня пятае загадкі), а таксама назваць час іх зьнішчэньня. Пасьля гэтага туру конкурсу, і падвядзеньня першых вынікаў, конкурс будзе доўжыцца. Нехта можа далучыцца з наступнага туру. Калі Вам захочацца напісаць нам пра свае ўражаньні ад гэтых здымкаў, ці падзяліцца сваім асабістым досьведам ці прыватнымі дакумэнтальнымі сьведчаньнямі пра незваротна страчаныя, альбо адроджаныя помнікі нашае гісторыі і культуры, мы з задавальненьнем пазнаёмім зь імі нашых чытачоў. Вядома, намі будуць разыграныя каштоўныя прэзэнты. Можа стацца і так, што аўтары найбольш цікавых допісаў будуць запрошаныя да сталага супрацоўніцтва з намі. Ніводзін з матэрыялаў, што будзе нам дасланы, не застанецца без увагі.

Нагадваем, першае месца ў мінулым конкурсе заняў Аляксей Фралоў, яго чакае гадавая падпіска на «Нашу Ніву» і фотаапарат, наступныя два месцы падзялілі між сабою Коржыч А.С. і Каваленка В.М., яны атрымаюць нашу квартальную падпіску і набор кніжак, якія былі выдадзеныя з удзелам «Нашае Нівы».

Сяргей Харэўскі

# Здарэньні

Працяг са старонкі 1

## Тэхніку не падманеш

Відаць, два бэйбусы з Магілёву ня ведалі, што існуе апаратура, здольная фіксаваць любыя рухі ўсярэдзіне памяшканьня. І вось гэтыя шаснаццацігадовікі схаваліся перад закрыцьцём ў цэнтральным гарадзкім унівэрмагу. Як толькі ўсе прадаўцы павыходзілі, хлапцы, трохі пачакаўшы, пабралі сумкі ды скіраваліся ў сэкцыю радыёапаратуры. Тым часам іхнія рухі былі зафіксаваныя адмысловымі інфрачырвонымі датчыкамі руху. Неўзабаве да крамы пад'ехаў нарад пазаведамаснай аховы. Усё выглядала нібыта спакойна. Але, памятаючы пра датчыкі руху, міліцыянты выклікалі прадстаўнікоў адміністрацыі ўнівэрмагу. І не памыліліся. Бо сыгналізацыя спрацавала зноў. Хлапцы, угледзеўшы міліцыянтаў, схаваліся пад прылавак, дзе іх і знайшлі. Маладыя злодзеі пасьпелі напакаваць замежнай апаратурай ды рознай драбязой чатыры вялізныя торбы, кошт чаго быў ацэнены ў 4 тыс. даляраў.

## Ня ўцёк

У Менску інспэктар ДАІ спыніў машыну маркі «Жыгулі» для звычайнай руціннай праверкі дакумэнтаў на прадмет угону. Не пасьпеў ён наблізіцца, каб папрасіць кіроўцу паказаць дакумэнты, як той уключыў заднюю перадачу ды паспрабаваў зьбіць міліцыянта. Сяржант пасьпеў адскочыць убок. Кіроўца ня стаў паўтараць, а рвануў наперад. Міліцыянт выхапіў пісталет ды пасьля папераджальнага стрэлу пачаў страляць наўздагон. Нягледзячы на прамое патрапленьне ў кола, злодзей уцёк. Міліцыянт праз рацыю выклікаў падмацаваньне, а сам на службовай машыне кінуўся наўздагон. Баевіковага перасьледу зь віскатаньнем колаў ды стрэламі праз бакавое шкло не атрымалася. Кіроўца «Жыгуля» ня справіўся з кіраваньнем, яго машына перакулілася, а ён сам загінуў на месцы.

## Мяжа на замку

Беларускія памежнікі абаранілі расейскія інтарэсы ў Чачэніі. Як паведаміла БЕЛТА, пры пераходзе беларуска-польскай мяжы імі быў затрыманы 16-гадовы вучань польскага ПТВ з Гродзіск-Мазавецкага. Ён, наглядзеўшыся ў тэлевізіі на зьверствы расейскіх войскаў у Чачэніі, вырашыў дапамагчы барацьбітам за «нашу й вашу волю». Пасьля пераходу ў Беларусь, ён плянаваў на перакладных дабрацца да Чачэніі. Але нездарма нашая мяжа ахоўваецца яшчэ й расейскімі памежнікамі. Хлопца схапілі. Беларускі бок выдаў парушальніка палякам. Тыя, паставіліся да яго з разуменьнем ды аддалі бацьку, што прыехаў забраць сына. Пад суд хлопец не патрапіць, хоць польскія законы забараняюць вайсковую службу сваіх грамадзянаў на карысьць іншай дзяржавы. Па-першае, хлопец яшчэ не пасьпеў паваяваць, а па-другое, — замалады. Суд аддадзены ў рукі бацькі, які пакляўся выбіць з нашчадка «ваяўнічы дух».

## «Вогненная Соня»

З тэлевізараў гарэць ня толькі «спэцыялізаваныя» на гэтым беларускія «Гарызонты». Славутыя японскія «Соні» таксама могуць гарэць ня горш за нашыя. Гэта прадэманстраваў выпадак у Менску на вуліцы Каліноўскага. Тут маці з малой дачкой глядзелі ўвечары тэлевізар ды, заснуўшы, так і пакінулі. Ноччу гаспадыня прачнулася ад чаду. Падхапілася і ўбачыла, што гарыць яе тэлевізар. Памятаючы нешта пра інструкцыі наконт падобных выпадкаў, яна схапіла коўдру ды накрыла вогненны апарат. Але шнур з разеткі не дастала. У выніку загарэлася коўдра, а за ёю — уся кватэра. Сям'я жыла на пятым паверсе, таму ад пажару пацярпела ня толькі яна. Пры гашэньні ўсе тоны вылітай вады шчодра «арасілі» суседзяў паверхамі ніжэй. Так што цяпер уладальнікам «Соні» давядзецца плаціць ня толькі за свой, але яшчэ й за рамонт для суседзяў.

© НАША НІВА   Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая   Наклад 5000   Нумар падпісаны ў друк 2.6.1996   Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)